ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№3 (72)
сакавік 2017 год
CATHOLICNEWS.BY

# Біскуп Алег Буткевіч у Германавічах: “Каб захаваць нашу годнасць, нам не трэба выракацца сваёй гісторыі, сваёй мовы, веры нашых продкаў”



**У нядзелю, 5 сакавіка, адбыўся асноўны дзень візітацыі біскупа Алега Буткевіча ў парафію Перамянення Пана ў Германавічах.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *калаж*

Нават надвор’е радавалася разам з вернікамі. Да гэтага дня рыхтаваліся і святар, і вернікі. Наогул парафіяне вельмі ўдзячныя Богу, што тры дзесяцігоддзі таму вернікам вярнулі іх храм. “Мы вельмі рады, што ў нашай вёсцы існуе касцёл. Сюды ў святы і будні на святую Імшу збіраюцца людзі: дарослыя і дзеці, настаўнікі і вучні, бабулі і дзядулі”, – адзначае Ганна Давідзян, якая працуе завучам у мясцовай школе.

З самага ранку святыня стала запаўняцца людзьмі. Упрыгожаны быў не толькі сам храм, але і тэрыторыя навокал касцёла.

Каб прывітаць свайго пастыра, усе вернікі выйшлі з храма. Прыезду біскупа спрыяла і само надвор’е, якое, насуперак прагнозам, выдалася ў гэты дзень сонечным.

Біскупа сустрэлі з хлебным караваем перад самым уваходам на прыкасцельную тэрыторыю, выказалі яму словы ўдзячнасці за гэты візіт. Ардынарый асвяціў вернікаў святой вадой і ўрачыста ўвайшоў у храм.

## Больш за два стагоддзі гісторыі

Касцёл Перамянення Пана разам з двухпавярховым кляштарам быў пабудаваны ў 1787 годзе на сродкі Ігнацыя Шырына. Ён набыў мястэчка Германавічы ў 1782 годзе і збудаваў на другім беразе ракі палац для сябе і сваіх сыноў.

У 1793 годзе, пасля Другога падзелу Рэчы Паспалітай, Германавічы патрапілі ў склад Расійскай імперыі. З 1810 года мясцовы касцёл становіцца парафіяльным, і такое становішча захоўваецца тут ажно да рэвалюцыі 1917 года.

У 1918 годзе, 6 і 7 жніўня, тут, у Германавічах, сабраўся дэканальны з’езд каталіцкага духавенства, які вырашаў свае дэканальныя справы і, наогул, будучыню Каталіцкага Касцёла пры савецкай уладзе. Там было адзначана, што абавязкова трэба весці набажэнствы на беларускай мове і вучыць дзяцей у беларускамоўных школах.

Пасля савецка-польскай вайны 1919-1920 гадоў і Рыжскага міру Германавічы патрапілі ў склад Другой Рэчы Паспалітай, дзе знаходзіліся да 1939 года, калі распачалася Другая сусветная вайна. Касцёл перастаяў вайну, але савецкай уладзе вера была не патрэбна. А ў 1949 годзе святыню зачынілі з тае нагоды, што савецкая ўлада лічыла: вернікі павінны скіроўваць сваю ўвагу на будаўніцтва камунізму, а не на веру.

У касцёле захоўвалася збожжа, у плябаніі быў млын. Такое становішча захоўвалася да канца 80-х гадоў ХХ стагоддзя.

Дзякуючы ахвярнасці людзей святыня зноў вярнулася да вернікаў. Па словах парафіянаў, на была вельмі занядбаная, і яе прыйшлося падымаць амаль што з руін.

*Працяг чытайце на стар. 5*

# “Я быў малы, а Імшал цяжкі...”: Папа адказвае на лісты дзяцей



**Папа Францішак здольны захапіць знянацку, здзівіць, стаць малым для малых. Вось ён вырашыў адказаць на ліст, які паступіў у Ватыкан з Ламбардыі.**



## Я б хацела зноў мець поўную сям'ю

Адна маленькая дзяўчынка з ваколіц Крэмоны напісала: “Дарагі Святы Айцец! Я б хацела зноў мець поўную сям'ю”. З прастатой і рашучасцю, характэрнымі для свайго ўзросту, дзяўчынка ўзяла ручку і паперу і, нікому нічога не кажучы, напісала Пантыфіку маленькі ліст. Яна адкрыла Францішку сваё сэрца, поўнае болю пасля таго, як яе бацькі сталі жыць асобна.

“Я б хацела зноў мець поўную сям'ю, – напісала дзяўчынка, – але, на жаль, я жыву толькі з мамай і маімі любімымі дзядулем і бабуляй”.

Праз некалькі дзён з Ватыкана прыйшоў адказ за подпісам чальца дзяржсакратарыята Ватыкана кс. Паола Борджа. Некалькі радкоў цалкам афіцыйнага стылю, якія, аднак, выклікалі вялікі перапалох і эмоцыі. “Папа Францішак, – было напісана ў лісце, – з радасцю прыняў твой мілы ліст, які з'яўляецца выразам тваёй любові і адданасці да яго. Святы Айцец дзякуе табе за гэты ліст і ад усяго сэрца благаслаўляе цябе і тваю сям'ю”.

## А ў мамы вырастуць крылы?

На стол Папы Францішка штодня трапляюць тысячы лістоў ад дзяцей. Некаторыя з іх а. Антонія Спадара сабраў у кнігу “L'amore prima del mondo. Papa Francesco scrive ai bambini” (“Любоў важнейшая за свет. Папа Францішак піша да дзяцей”).

“Мая мама ў раі, вырастуць у яе анёльскія крылы?” – пытаецца сямігадовы Лука з Аўстраліі, а Папа адказвае: “Не, не вырастуць, але яна будзе прыгожая, зіхатлівая і поўная святла”.

## А ты калісьці быў міністрантам?

9-гадовы Алесія Джулін з Катаніі намаляваў хлопчыка ў абранні міністранта і напісаў: “Дарагі Папа Францішак, ты калісьці дапамагаў святару як міністрант?” Святы Айцец адказаў: “Дарагі Алесія, так, я быў міністрантам. А ты? Хлопчык на малюнку – гэта ты?”

Далей Папа падкрэслівае, што ў тыя часы, калі ён быў дзіцём, міністрант меў значна цяжэйшыя заданні, чым цяпер: “Але, бачыш, сёння значна лягчэй. Ты павінен ведаць, што калі я быў дзіцём, святую Імшу служылі інакш, чым цяпер. Па-першае, святар стаяў тварам да алтара, змешчанага пад сцяной, а не тварам да людзей. Акрамя таго, Імшал, гэта значыць кніга, якая служыць для цэлебрацыі Імшы, ляжала на алтары справа. Але перад чытаннем Евангелля трэба было пераставіць яе налева. Маім заданнем было перасунуць Імшал справа налева, а затым злева направа. Гэта было нялёгка. Імшал быў вельмі цяжкі. Я яго падымаў, укладаючы ў гэта ўсю энергію, але не быў дастаткова моцны, і звычайна Імшал выпадаў у мяне з рук. У рэшце рэшт, святар павінен быў мне ў гэтым дапамагаць. Гэта быў сапраўдны выклік!”

## А ты прыедзеш пакаштаваць маю піцу?

Гісторыя Матэа Рыбальдзі хутка разлядзелася ў інтэрнэце. Васьмігадовы хлопчык з Фоджа, вучань трэцяга класа пачатковай школы імя Вітарына ды Фельтрэ, запрасіў Папу ў свой горад. Святы Айцец на запрашэнне мог бы агледзець славутасці Фоджа, а заадно – “пакаштаваць смачную піцу, якую я прыгатую”, – заахвоціў Матэа.

“Слухай, дарагі Папа, – дадаў ён напрыканцы, – я шчыра адданы фанат “Ромы”. А ты прыхільнік якой каманды?” Адказу з Апостальскай Сталіцы доўга чакаць не давялося. Матэа атрымаў канверт з лістом з Ватыкана, у якім Святы Айцец перадае яму сардэчныя абдымкі і перасылае благаслаўленне для хлопца і яго сям'і. Таксама Папа задаволіў цікаўнасць малога фаната, адзначыўшы, што заўсёды за аргентынскі клуб “Сан Ларэнца”.

## Распавяду табе пра маё пакліканне

Адзінаццацігадовы Паола з Удына напісаў Пантыфіку пра сваё пакліканне. Хлопец паведаміў Святому Айцу, што мае намер калі-небудзь стаць святаром і просіць памятаць яго ў малітве.

Праз некалькі тыдняў у паштовай скрыньцы Паола чакала неспадзяванка – адрасаваны яму канверт са штэмпелем Ватыкана, а ўнутры ліст, напісаны ад імя Папы Францішка, за подпісам арцыбіскупа Пітэра Уэлса. Там чытаем: “Ты расказаў Папу Францішку, што выконваеш служэнне міністранта ў сваім прыходзе і хочаш распазнаць пакліканне. Прошу, каб ён падтрымліваў цябе сваёй малітвай. Яго Святасць дзякуе табе за любоў, якая натхніла цябе на гэты сыноўні жэст, і запэўнівае, што будзе маліцца, каб дзякуючы службе алтара саспела тваё шчырае і поўнае любові сяброўства з Панам Езусам і дапамагло табе зразумець, які Яго план у адносінах да цябе. Святы Айцец ад усяго сэрца благаслаўляе цябе і тваю сям'ю, ахопліваючы благаслаўленнем таксама ўсіх, хто табе блізкі”.

## Я б хацеў, каб ты быў маім сведкам на канфірмацыі

Шасцігадовы Рыкарда з Манрэалі (недалёка ад Палерма) звярнуўся да Святога Айца з просьбай, якую даўно ўжо носіць у сэрцы: ці мог бы сам Францішак стаць яго сведкам на канфірмацыі? Ніхто з сям'і не верыў у адказ, але аднойчы ў скрыні апынулася нечаканасць з Ватыкана.

Ліст расчуліў таксама бацькоў, перш за ўсё таму, што Папа ў ім просіць хлопчыка маліцца за яго і дзякуе “за гэты выраз сыноўніх пачуццяў”. Далей ён просіць Маці Божую пра заступніцтва і апеку над хлопчыкам у яго жыццёвым шляху і ад усяго сэрца благаслаўляе самога Рыкарда і яго сям'ю.

*Паводле матэрыялаў Credo са спасылкай на Aleteia*
*Пераклад catholicnews.by*

# Незвычайная споведзь Яна Паўла II

**У інтэрв'ю, якое Папа Францішак нядаўна даў для часопіса “Scarp de'tenis”, ён успомніў адну выдатную гісторыю сустрэчы Яна Паўла II з бяздомным мужчынам.**

Той бяздомны паляк у Рыме не размаўляў ні з кім, нават з валанцёрамі “Карытас”, якія прыносілі яму ежу. Толькі пасля доўгага часу абмовіўся ім, што з'яўляецца святаром і вучыўся ў семінарыі разам з Янам Паўлам II.

“Гэта дайшло да Папы, які, пачуўшы імя гэтага чалавека, пацвердзіў, што быў разам з ім у семінарыі, і вырашыў з ім сустрэцца. Яны моцна абняліся праз 40 гадоў, што мінулі, а ў завяршэнне аўдыенцыі бяздомны папрасіў Папу, каб яго паспавядаў”, – распавёў Францішак.

“Пасля споведзі былы калега сказаў Яну Паўлу II: “Цяпер твая чарга”. І калега з семінарыі паспавядаў Папу”, – прыгадаў Францішак. Ён звярнуў увагу, што ўсё гэта адбылося дзякуючы валанцёру, гарачай ежы і словам суцяшэння. Бяздомны святар, дадаў Папа Францішак, змяніўся, вярнуўся да нармальнага жыцця і стаў капеланам у шпіталі.

“Папа яму, відавочна, дапамог, – гэта цуд, але таксама і прыклад таго, што бяздомныя людзі маюць вялікую годнасць”, – падвёў вынік Святы Айцец.

*Паводле deon.pl*



# Біскуп Алег Буткевіч падчас пастырскай візітацыі ў Лужках развважаў з вернікамі на тэму працы

**26 лютага 2017 года біскуп Алег Буткевіч наведаў невялікую парафію святога Міхала Арханёла ў Лужках, што ў Шаркаўшчынскім раёне.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Пастырская візітацыя распачалася з мясцовай бальніцы сястрынскага догляду, дзе біскуп сустрэўся з медычным персаналам і насельнікамі гэтай установы.

А 13-й гадзіне Віцебскага ардынарыя віталі з хлебам-соллю лужкоўскія вернікі ля святыні. Затым у касцёле адбылася кароткая малітва, і пробашч парафіі кс. Міхаіл Татарэнка распавёў пра гісторыю і жыццё парафіі.

Раздзялілі радасць сустрэчы вялікага госця з мясцовымі парафіянамі сваёй прысутнасцю на св. Імшы прадстаўнікі мясцовай улады, дзеці, нягледзячы на вельмі халодны касцёл і неспрыяльнае надвор'е. Завітаў таксама і кс. Ян Пугачоў, пробашч з суседняй парафіі ў Германавічах.

Падчас урачыстай Эўхарыстыі іерарх маліўся аб ласцы веры і патрэбных дарах для парафіянаў і пробашча.

У сваёй прамове да вернікаў біскуп Алег заклікаў прыглядзецца да рэчаіснасці, да нашай працы з боку веры, Бібліі. "Ад пачатку стварэння свету на чалавека было ўскладзена заданне – клопат пра створанае Богам. Да грэхападзення праца прыносіла першым людзям задавальненне. Праблема з ёй узнікла, калі чалавек саграшыў і адышоў ад Бога. Падчас выгнання з раю Творца сказаў чалавеку: "У поце твару свайго будзеш спажываць хлеб". З таго часу праца стала для нас цяжарам. Чым далей чалавек адыходзіць ад Бога, тым больш праблем узнікае. Бог не заахвочвае нас да беспрацоўя, а нагадвае, што трэба клапаціцца і памятаць: ёсць вышэйшая каштоўнасць за нашу працу. Шукайце напачатку Божага Валадарства і Бог усё вам дасць", – звярнуў увагу Віцебскі ардынарый.

Пасля святой Імшы біскуп Алег сустрэўся з прадстаўнікамі парафіяльнай рады. Былі закранутыя розныя праблемы і атрыманыя адказы на актуальныя пытанні.



## Біскуп Алег Буткевіч наведаў сацыяльны прытулак для састарэлых у вёсцы Дзікева

**Гэта адбылося 4 сакавіка падчас першага дня візітацыі віцебскага ардынарыя ў Германавіцкую парафію, што ў Шаркаўшчынскім дэканаце.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Аддзяленне для кругласутачнага прабывання састарэлых і інвалідаў было створана тут у 2006 годзе. Яно разлічанае на 40 чалавек, зараз тут знаходзіцца 37 грамадзян.

Як лічыць кіраўнік гэтай установы Наталля Хрол, "галоўная задача – працягнуць актыўнае жыццё нашых грамадзян, каб яны і надалей заставаліся актыўнымі і бадзёрымі". Для гэтага ў Дзікеве створаны вельмі добрыя ўмовы. "У нас ёсць чатыры гурткі, якія наведваюць людзі сталага веку. Практыкуецца ў нас новая форма працы з састарэлымі. Гэта пэт-тэрапія – лячэнне хатнімі жывёламі. У нас ёсць гурток трусагадоўлі, і вось мы сюды прыводзім гэтых хатніх жывёл. Дзядулі нашы маюць магчымасць паглядзець на іх, пагладзіць, палюбавацца і гэтым узняць сабе настрой," – распавядае Наталля Браніславаўна.

Біскуп Алег сустрэўся з насельнікамі і супрацоўнікамі сацыяльнага прытулку, прыйшлі на гэту сустрэчу і жыхары вёскі. Напачатку біскуп пацікавіўся ўмовамі пражывання, спытаў, ці наведваюць састарэлых людзей іх родныя. А потым іерарх паразважаў пра сэнс жыцця, пра месца Бога ў гэтым жыцці, пра тое, з якой мэтай Бог стварыў чалавека. Сустрэча працягвалася амаль паўтары гадзіны, але гэтага часу ніхто не заўважыў, бо адбываўся абмен думкамі ў форме дыялогу з людзьмі.

Пазней супрацоўнікі ўстановы выказалі нават сваё здзіўленне, што старыя праявілі такую зацікаўленасць, бо ніхто заўчасна не сышоў з гэтай сустрэчы.

Кіраўнік установы так ацаніла візіт высокага госця: "Мы вельмі радыя, што біскуп падарыў нам хвілінкі радасці. Бо нашых дзядуль і бабуль не заўсёды наведваюць блізкія і родныя, таму біскуп і ксёндз Ян дапамагаюць ім адчуць, што яны не адзінокія, а патрэбныя людзям, патрэбныя грамадству".

Арганізацыя сацыяльнага прытулку на месцы былой школы, якую ў свой час закрылі праз малую колькасць вучняў, можа быць добрым прыкладам выкарыстання такіх будынкаў. Прытулак таксама дае працу шмат каму з вяскоўцаў, што ў наш час вельмі важна. Ён лічыцца свайго кшталту элітным: сюды не кожны можа патрапіць. Але ўсё ж і такі прытулак не можа замяніць састарэламу чалавеку сям'і. Таму перш чым аддаваць блізкага чалавека ў падобныя ўстановы, варта пра гэта памятаць.



## ЦІ ВАРТА Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ ПРЫСЛОЎЕ *"НАСАМРЭЧ"*?

У вуснай і пісьмовай практыцы апошніх пятнаццаці-дваццаці гадоў істотна пашырылася слова **насамрэч**. Але гэтае прыслоўе не фіксуецца "Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы" (ТСБМ, Мінск, 1977-1984), няма яго і ў "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (ТСБЛМ, Мінск, 1996). Дык ці варта выкарыстоўваць у беларускай мове прыслоўе **насамрэч**? Паспрабуем разабрацца.

Слова **насамрэч** ужываецца ў нашай мове як сінонім да ўласнабеларускага прыслоўя *сапраўды* і калькаванага з рускай мовы спалучэння *на самай справе* (пар. рус.: *на самом деле*). Можна меркаваць, што гэта слова ўтворанае паводле аналогіі з пададзеным у ТСБМ з паметай *абл.* прыслоўем *насамперш* (Т. 3, с. 304), якое, зрэшты, выкарыстоўваецца ў сучаснай маўленчай практыцы ўсё ж абмежавана. А вось лексема **насамрэч** даўно і трывала замацавалася не толькі ў вусным маўленні, але і ў публіцыстычным стылі, рэгулярна фіксуецца ў сродках масавай інфармацыі. Прывядзём канкрэтныя прыклады: *Калыханка – **насамрэч** самая ўзроставая праграма беларускага тэлебачання* (Звязда, 14.01.11); *Чаму Назарбаеў **насамрэч** даў дабро на рэферэндум?* (Новы час, 28.01.11); ***Насамрэч** у Беларусі вельмі мала майстроў валяння…* (Віцебскі праспект, 27.01.11); *Месца будаўніцтва знаходзіцца **насамрэч** насупраць ужо існуючай рэзідэнцыі, у адной з затокаў Мінскага мора* (Наша ніва, 13.07.11); ***Насамрэч**, беларусаў ва ўсім свеце за межамі нашай краіны – мільёны* (Наша слова, 27.07.11); ***Насамрэч** нават скептыкам сёння зразумела: варыянт вядзення спраў на паперы – больш дарагі для дзяржавы, чым электронны* (Звязда, 16.05.12). Звернем увагу, што названае прыслоўе выкарыстоўваецца на старонках самых розных выданняў – ад цэнтральных да рэгіянальных. А гэта сведчыць пра яго літаратурны статус, тым больш што лексема пададзена і ў акадэмічным "Слоўніку беларускай мовы" (Мінск, 2012, с. 437).

Такім чынам, кожны носьбіт беларускай мовы можа смела карыстацца па-свойму адметным, у пэўнай ступені вытанчаным прыслоўем **насамрэч**, якое дакладна, трапна перадае сутнасць з'явы.

***Юрась Бабіч**, кандыдат філалагічных навук*

# Віцебская дыяцэзія мае новага дыякана

**25 лютага 2017 года ў санктуарыі Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе дыяканскае пасвячэнне з рук Яго Эксцэленцыі біскупа Алега Буткевіча атрымаў клерык Алег Хмылко.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*



Семінарыст паходзіць з парафіі святога апостала Андрэя ў Лынтупах. Вучобу распачынаў у Вышэйшай духоўнай семінарыі св. Тамаша Аквінскага ў Пінску, апошнія два гады вучыўся ў архідыяцэзіяльнай семінарыі ў Беластоку.

На ўрачыстай св. Імшы разам з біскупам Алегам у інтэнцыі кандыдата да дыяканату маліліся кс. Ян Саламон, які падчас вучобы дк. Алега быў рэктарам Пінскай семінарыі, духоўны айцец Аркадзь Куляха, святары і законныя сёстры з Віцебскай і іншых дыяцэзій, клерыкі з Пінска. А таксама вялікі шлях праехалі, каб падтрымаць духоўна і раздзяліць радасць са сваім сабратам, дыяканы з Беластока.

Пасля Літургіі слова кс. Мікалай Ціхановіч, які з'яўляецца адказным за выхаванне і фармацыю будучых святароў Віцебскай дыяцэзіі, звярнуўся да біскупа з просьбай удзяліць пасвячэнне дыяканату і засведчыў, што кандыдат падрыхтаваны і гатовы прыняць пасвячэнне.

Гамілію прамовіў Віцебскі ардынарый. "Святар мае ўладу стаяць пры алтары, нават мае ўладу выганяць злых духаў. Гэта такі выразны знак для тых, хто сумняваецца, ці існуе духоўны свет, – падкрэсліў біскуп Алег і, звярнуўшыся да семінарыста Алега, заклікаў памятаць словы Хрыста: – Не з таго радуйцеся, што нават злыя духі будуць вам падпарадкоўвацца, але што вашыя імёны будуць запісаныя ў небе". "Заданне кожнага з нас, а асабліва святара ёсць, каб імя з Кнігі жыцця, у якую запісваюць пасля хросту, не было выкрасленым.

Гэта вельмі прыгожае і ўзнёслае заданне. Жадаю табе перажываць радасць з таго, што праз цябе Езус будзе наварнаць людзей, прыводзіць да касцёла, праз тваю паслугу людзі будуць чуць Евангелле і прымаць Яго ў сваё сэрца. Але памятай, што гэта будзе здзяйсняць у табе Езус Хрыстус. Сёння Ён выбірае цябе на свайго слугу, абірае цябе Сваёй прыладай. Будзь прыдатным!" – пажадаў іерарх.



Наступнай часткай Літургіі сталі абяцанні, якія кандыдат складае на рукі біскупа. Потым прысутныя маліліся Літаніяй да ўсіх Святых, а семінарыст ляжаў крыжам перад алтаром. Затым адбылося ўскладанне рук і малітва. Дыякан, апрануўшы стулу і дальматыку, атрымаў Евангелле з рук біскупа і знак супакою.

На заканчэнне ўрачыстасці словы ўдзячнасці да прысутных святароў, вернікаў, гасцей, сяброў скіраваў новапасвечаны дыякан Алег. Асаблівыя словы падзякі за хрысціянскае выхаванне ад дыякана і біскупа былі выказаны бацькам – Уладзіміру і Міраславе Хмылко, а таксама прысутнаму брату Аляксандру.

Папярэдняга дыякана Віцебская дыяцэзія мела ў 2013 годзе. Як адзначыў біскуп Алег, "сёння мы маем хваляванне і радасць, бо прэзбітэрый Віцебскай дыяцэзіі павялічыўся на аднаго дыякана. Радасць з таго, што на жніве Пана з'явіўся чалавек, які будзе добрым і ахвярным працаўніком і слугою Езуса Хрыста".

Дыякан Алег на пытанне "Каталіцкага Весніка" распавёў, што ішоў да гэтага дня доўга, бо, адчуваючы сваё пакліканне, не адразу паступіў у семінарыю, а паспрабаваў вучыцца ў свецкай установе. Атрымаў эканамічную адукацыю. Але думка стаць святаром заўсёды заставалася ў яго сэрцы.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" далучаецца да віншаванняў і жадае дыякану Алегу плённай працы на жніве Пана, каб імкнуўся да святасці і вёў за сабой іншых людзей, паказваючы прыклад аддана слугі Госпада.***

# Восем рэчаў, якія католік павінен рабіць штодня

**Калі ты працуеш або вучышся, то ведаеш, як важна правільна арганізаваць час: ты разлічваеш, плануеш дзень, абдумваючы, колькі хвілін прысвяціць яго асобным элементам. Можна падобным чынам упарадкаваць сваe адносіны з Богам? Пераканайся!**

Прапанаваны пералік – гэта не дэталёвыя ўказанні. Ты не знойдзеш тут рэкамендацый, колькі часу прысвяціць той ці іншай справе. Аднак важна, каб яны патрапілі да твайго штодзённага плану. Пачні спакойна выконваць асобныя элементы, неўзабаве гэта не запатрабуе празмернай канцэнтрацыі, а стане звычкай.

**Пачні дзень з малітвы да Маці Божай і чытання Святога Пісання.** Гучыць банальна? Але, пагадзіся, раніца – гэта найгоршая частка дня: пад'ём, будзільнік, абудзіць дзяцей, мужа… Сабака, які хоча выйсці на двор, сняданак, мыццё, цяжкі выбар бездакорнага адзення і транспарт, што не прыходзіць своечасова. Наогул гэта час спешкі, і даданне сабе новых абавязкаў – не найлепшая ідэя. Паспрабуй, аднак, знайсці пяць хвілін і вельмі проста памаліся: прачытай "Вітай, Марыя …" і два абзацы з Біблії. Можаш таксама дадаць нешта ад сябе: папрасі пра паспяховы дзень, падзякуй за спакойную ноч, папрасі прабачэння за зло, якое здарылася ўчора. Біблію можна чытаць па парадку, часткамі або згодна з чытаннямі, якія прапануе Касцёл на гэты дзень.

**Будзь прыветлівым з іншымі і самім сабой.** Пасля вызвалення з ранішняга хаосу ты, нарэшце, сустракаешся са сваім атачэннем. Часам гэта надзвычай цяжка, але старайся быць прыязным з людзьмі ў аўтобусе, трамваі ці на прыпынку. Не хадзі на працу ў дрэнным настроі і не шукай сваркі з калегамі. Стаўся да іншых так, як хочаш, каб ставіліся да цябе. Будзь у адносінах да сябе цярплівым і спакойным: не патрабуй занадта шмат, не спрабуй быць ідэальным, пазбягай кар'ерызму. Ты маеш права памыліцца і прасіць іншых пра дапамогу. Хрысціянская мараль прадугледжвае, што мы павінны любіць бліжняга, як самога сябе. Калі ты сам сабе вораг, то як зможаш зрабіць шчаслівым іншага чалавека?

**Гавары і пішы пра сваю веру ў сацыяльных сетках.** Напрыклад, біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB актыўна карыстаецца Фэйсбукам. Фэйсбук, Твітэр і Ютуб – гэта выдатная магчымасць падзяліцца сваёй верай з іншымі. Гэта таксама цудоўная магчымасць адкрыць іншыя погляды на свет і рэлігію.

Ствары блог, распаўсюджвай штодзённыя цытаты з Біблії або словы вядомых святых, далучыся да дабрачыннай групы і рабі канкрэтныя ўчынкі міласэрнасці і любові да бліжняга падчас працы або вучобы. Хто ведае, магчыма, менавіта твае словы сушэшаць каго-небудзь ці дапамогуць інакш зірнуць на нейкую праблему.

**Скажы каму-небудзь, што любіш яго.** Гэта бывае вельмі цяжка, паколькі мы жывём у часы, калі праяўляць свае пачуцці сорамна. Калі-нікалі гэта ўспрымаецца як прыкмета слабасці і можа прычыніць боль. Аднак асабістае перакананне ў існаванні таго, хто мяне любіць, надае сілы і дапамагае змагацца з штодзённымі цяжкасцямі.

Для кожнага хрысціяніна найлепшым прыкладам такіх паводзін з'яўляецца Сам Госпад, Які штодня кажа нам: "Люблю Цябе, Ты – Мая дачка, Ты – Мой сын". Мы адчуваем глыбокую патрэбу ведаць, што ёсць людзі, для якіх мы важныя, якія мы да нас неабыякавыя. Зрабі першы крок і пакажы сваім бацькам (бабулі і дзядулю, мужу ці жонцы, жаніху або нявесце), што свет без іх быў бы жахлівым.

**Гавары пра Бога.** Не толькі ў інтэрнэце, але таксама са знаёмымі і калегамі, у школе або ўніверсітэце. Калі гэта праблема для цябе (саромеешся пачаць размову на падобную тэму), пагавары спачатку з кімсьці, хто верыць так, як ты. Можаш падзяліцца многімі фактамі, аргументамі або звесткамі. Гэта важна, таму што тады ўсвядоміш, што ты не адзін, і спакойна можаш казаць пра тое, што для цябе з'яўляецца важным і істотным.

**Ахвяруй штосьці.** Гаворка не ідзе пра вялікія рэчы, але пра дробныя пастановы, што табе пад сілу: зрабі сабе менш бутэрбродаў на працу, не слухай музыкі ў аўтобусе, з'еш хлеб, які застаўся з учарашняга дня. Аднак важна, каб такія самаадрачэнні мелі канкрэтную мэту: зэканомленыя сродкі можна выдаткаваць на абед для бяздомнага, а некалькі хвілін цішыні па дарозе дадому прысвяціць размове з Богам пра сённяшні дзень.

**Стань слугой.** Ты не павінен адразу ўвесь дзень займацца дабрачыннай дзейнасцю. Зрабі штосьці нязначнае: вынесі смецце, дапамажы маці прыгатаваць абед, дапамажы старой суседцы данесці сумку з пакупкамі, а малодшаму брату зрабіць урокі, памый посуд, каб твая жонка магла адпачыць. Варта кожны дзень усведамляць, што ты зрабіў нешта важнае і карыснае.

**Падвядзі вынікі за дзень.** Успомні, што табе ўдалося зрабіць з запланаваных рэчаў, а што не. Што ты зрабіў добрага? Або здзейсніў нейкія цяжкія грахі? Падзякуй Богу за ўсё і папрасі сілы на наступны дзень.

*Паводле матэрыялаў Credo са спасылкай на Deon.pl*
*Пераклад catholicnews.by*

# Біскуп Алег Буткевіч наведаў парафію Маці Божай Шкаплернай у Ёдах

**Гэта парафія знаходзіцца ў Шаркаўшчынскім дэканаце. Візіт кіраўніка дыяцэзіі адбыўся ў нядзелю, 5 сакавіка. Каб сустрэць свайго пастыра, усе вернікі выйшлі з капліцы.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*



Як адзначыла актывістка парафіі Галіна Яблонская, "сёння для нас вельмі радасная падзея – мы ў чаканні нашага дарагога госця – біскупа Алега. У 2006 годзе мы вось так сустракалі біскупа Уладзіслава Бліна. А сёння і сонейка свеціць, Боханька з гэтай нагоды дае нам такое добрае сакавіцкае надвор'е".

Ардынарыя сустрэлі цёплымі словамі і хлебным караваем, пасля чаго ён акрапіў вернікаў святой вадой і ўрачыста ўвайшоў разам з парафіянамі ў храм.

Першая Імша ў цяперашняй ёдскай капліцы адбылася 30 красавіка 1994 года. Храм мае тытул Маці Божай Шкаплернай. А першая капліца ў Ёдах, таксама пад гэтым тытулам, была пабудавана яшчэ да вайны, яе нават не паспелі асвяціць. Пасля вайны новай уладзе храмы былі непатрэбныя, і яе разабралі.

Пробашчам парафіі ў Ёдах з'яўляецца ксёндз Юры Ноцунь, але зараз ён хварэе, і сюды даязджае ксёндз Ян Пугачоў з Германавічаў. І хоць дарога да Ёдаў няблізкая, святар не адчувае стомленасці. Ён адзначае, што вернікі знаходзяцца тут пад Божай апекай: "Ім Бог дапамагае, Маці Божая Шкаплерная дапамагае, і я не адчуваю вялікай цяжкасці, духоўнай і фізічнай. На гэтым шляху да капліцы можна памаліцца, паразважаць... Самае галоўнае, каб Бог даў сілы і моц".

У сваім слове да вернікаў біскуп паразважаў над мэтай стварэння Богам чалавека. Ён узгадаў момант, апісаны ў Бібліі, калі сатана ў вобразе змея спакушае жанчыну. Гэты ўрывак гучаў падчас Імшы ў першым чытанні. Іерарх падкрэсліў, што віна ў першародным граху ляжыць не на жанчыне, як шмат хто лічыць, а на злым духу. Бо ён выбраў жанчыну таму, што на ёй ёсць вялікая адказнасць. Д'ябал хоча праз чалавека знішчыць створаны Богам свет, і наша задача – не паддавацца на гэтыя спакусы.

Ардынарый звярнуў увагу на вялікую колькасць самагубстваў у нашай краіне. Гэта што сведчыць пра тое, што людзі страцілі сэнс свайго жыцця. А сапраўдны сэнс можна знайсці толькі ў веры. "Бог стварыў чалавека для шчасця, – падкрэсліў біскуп, – гэта вынікае з Бібліі. Але ён стварыў нас істотамі са свабоднай воляй, і ад нас саміх залежыць, быць шчаслівымі ці не".

Казанне біскуп праводзіў у форме дыялогу з вернікамі, таму хоць яно і працягвалася больш за паўгадзіны, ніхто не адчуў стомленасці.

Напрыканцы Імшы словы падзякі высокаму госцю выказалі дзеці і моладзь парафіі.

Біскуп падзякаваў усім за сумесную малітву, за падрыхтоўку гэтай сустрэчы. Ён высока ацаніў прысутнасць на богаслужэнні прадстаўнікоў мясцовай улады, адзначыўшы, што і Касцёл, і свецкая ўлада робяць адну добрую справу – служаць для дабра людзей.

Іерарх удзяліў вернікам біскупскае благаславенне, а пасля асобна благаславіў дзяцей і моладзь парафіі, з якімі сустрэўся пасля Імшы. Потым біскупа Алега запрасілі на гарбату ў мясцовую бібліятэку, дзе ён сустрэўся з актывам парафіі ў Ёдах. Супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі цікавы даклад па гісторыі сваёй парафіі і выказалі надзею, што яна і надалей будзе развівацца, каб служыць справе яднання людзей з Богам.

# Біскуп Алег Буткевіч у Германавічах: "Каб захаваць нашу годнасць, нам не трэба выракацца сваёй гісторыі, сваёй мовы, веры нашых продкаў"

*Пачатак на стар. 1*

### Адказнасць за наша збаўленне ляжыць на нас саміх

Пасля ўрачыстага ўваходу ў храм пробашч парафіі ксёндз Ян Пугачоў прывітаў біскупа, адзначыўшы, што кожны візіт ардынарыя – гэта ўзмацненне веры, Божае благаслаўленне. Тое ж ён падкрэсліў і для "Каталіцкага Весніка": "Гэта не толькі пазіцыя, што нехта прыязджае, але з чым. Біскуп прыязджае з благаслаўленнем, узмацненнем і дараваннем той надзеі, якая даецца кожнаму чалавеку. Кожны з нас у такі момант хоча дакрануцца, як да тых апосталаў, хоча папрасіць дапамогі, хоча знайсці супакой, ласку, любоў Божую і чалавечую".

Вернікі памаліліся за біскупа Алега, пасля чаго іерарх звярнуўся з прывітальным словам да прысутных. Ён падкрэсліў, што прыехаў у парафію не толькі з афіцыйным візітам як галава Касцёла ў дыяцэзіі, але і з жадання сустрэцца з самімі вернікамі.

Пасля прывітальных слоў адбылася святая Імша. Богаслужэнне распачалося з урачыстага ўваходу святароў і міністрантаў праз цэнтральны ўваход у храм. Вельмі кранальна гучаў псальм у выкананні Сяргея Плехава і Аляксандра Паўчанкі.

Паколькі гэта была першая нядзеля падчас Вялікага посту, то і Божае слова, якое прачытаў ксёндз Ян, прысвячалася моманту, калі Езус сорак дзён пасціўся ў пустыні, а пасля гэтага быў спакушаны д'яблам. Таму сваё казанне біскуп Алег пабудаваў на тым, як чалавеку супрацьстаяць розным спакусам, якіх вельмі шмат у сучасным свеце. "Бог стварыў чалавека на сваё падабенства, таму мы маем свабодную волю, – адзначыў іерарх. – Вось чаму адказнасць за наша збаўленне ляжыць на нас саміх".

Вялікую ўвагу ў сваім казанні біскуп удзяліў таму моманту са Старога Запавета, дзе сатана ў вобразе змея спакушае жанчыну. "Шмат хто лічыць, што ў гэтым ёсць віна жанчыны, – адзначыў біскуп Алег, – але гэта не так. Злы дух дзейнічаў праз жанчыну, бо разумеў, што на жанчыне ляжыць вялікая адказнасць за выхаванне чалавека, у тым ліку мужчыны. Паколькі сатана не можа знішчыць Бога, то ён вырашыў знішчыць людзей, якіх Бог называе сваімі дзецьмі. Вось чаму нам трэба вучыцца супрацьстаяць гэтым спакусам і не траціць сваю чалавечую годнасць. Бо чалавек, які траціць сваю годнасць, траціць потым і сваё жыццё, сэнс свайго існавання".

А каб захаваць гэту годнасць, нам не трэба выракацца сваёй гісторыі, сваёй мовы, веры нашых продкаў. У якасці прыкладу іерарх прывёў жыццё Язэпа Драздовіча, які пэўны час жыў у Германавічах і шмат зрабіў для гэтага краю. Язэп Драздовіч апярэдзіў свой час, яго, бывала, не разумелі сучаснікі, але гісторыя паказала, што гэты чалавек быў адданым сынам сваёй зямлі і сваім талентам праславіў яе не толькі для Беларусі, але і для ўсяго свету.

### Кожная такая сустрэча нясе надзею

Напрыканцы святой Імшы вернікі ў знак удзячнасці падарылі біскупу абраз Маці Божай, які напісаў мастак з Шаркаўшчыны Алесь Шыёнак. Словы ўдзячнасці і падарунак на памяць пра візітацыю атрымаў іерарх і ад дзяцей Германавіцкай парафіі.

Біскуп Алег так ацаніў вынікі сваёй візітацыі: "Мне прыемна было дакрануцца да гэтай спадчыны, гэтай культуры. І, безумоўна, сустрэцца з людзьмі, якія і сёння шукаюць сваіх духоўных каранёў, імкнуцца будаваць сваё жыццё на праўдзе Евангелля. Таму кожная такая сустрэча нясе радасць, нясе надзею, што наш Касцёл становіцца зараз на ногі і набірае кшталту Хрыстовага Касцёлу".

Напрыканцы біскуп звярнуў увагу на тое, што ў храме прысутнічалі і вернікі-мужчыны, адзначыўшы, што месца мужчыны ў святыні павінна быць наперадзе. Бо зараз, на жаль, мужчыны менш ходзяць у храм, чым жанчыны. І гэта становішча трэба выпраўляць. Закончылася Імша біскупскім благаслаўленнем, пасля чаго ардынарый сустрэўся з парафіяльнай радай і мясцовай моладдзю.

### Словы ўдзячнасці святару

Ксёндз Ян Пугачоў працуе ў Германавічах ужо шэсць гадоў. Ён карыстаецца вялікай павагай у сваіх вернікаў. "Ён да кожнага чалавека мае свой падыход, кожнаму падкажа нешта лепшае, каб быць з Богам, каб любіць Бога, каб паважаць Бога. А з гэтым ты паважаеш і самога сябе", – кажа пра святара Уладзімір Цярэшка.

З ім згодны і Пётр Касевіч: "Шмат наш ксёндз працуе, шмат у яго спраў, ён стараецца, каб нешта зрабіць, дзесьці штосьці дагледзець. Праца святара вельмі цяжкая і вельмі адказная, бо ён служыць Богу, аддае сябе поўнасцю".

Ксёндз Ян шмат увагі ўдзяляе моладзі парафіі, летам тут працуе лагер для дзяцей. "Ксёндз Ян праводзіць цікавыя заняткі з дзецьмі, навучае іх жыццю, вучыць іх любіць Бога, людзей, што тут жывуць. Бо гэта вельмі важна, калі ёсць Бог у сэрцы кожнага чалавека, – адзначае Ганна Давідзян і дадае: – Вялікі дзякуй нашаму ксяндзу Яну, які столькі зрабіў для нашага касцёла, для нас, вернікаў. Дай Бог яму моцнага здароўя, поспехаў у яго нялёгкай працы, усяго самага найлепшага".

Ксёндз Ян таксама выказвае словы ўдзячнасці сваім парафіянам. Ён адзначае, што не ўсе з іх яшчэ прыйшлі ў належнай ступені да касцёла, але ён верыць у людзей: "Я б сказаў, што шмат вельмі добрага гэтыя людзі маюць у сабе, вельмі светлага. Яны так ці інакш рознымі спосабамі шукаюць Хрыста. Нават тое, што не ўсе так часта ходзяць у касцёл... Яны кажуць, што прыйдуць яшчэ да яго. І я ў гэта веру, што яны прыйдуць у касцёл".

## Ліст у Росіцу

Пахвалёна будзь, святая Росіца!
Да цябе, гаротнай, маё сэрца просіцца
І ў спякотны жнівень, і ў сцюдзёны люты,
Каб ахвяр тваіх ушанаваць пакуты.

Да тваіх святыняў шчыра прыгарнуцца
І збалелых ранаў ціха дакрануцца,
З келіха пакутаў моцы каб напіцца,
Перад мужнай верай галавой схіліцца.

У малітве шчырай каб трываць з табою
Перад веліччу святой ахвярнае любові.
І лячыць душу з правінаў і згрызотаў
Лекам палымнелым тваёй Галготы.

***Геня Бартко**, парафіянка касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім*

# Крыжы

За вёскаю, каля дарогі, якая вядзе да бальшака, стаяў просты каталіцкі крыж. Ад часу, дажджу і ветру ён зрабіўся шэрым і ў змрочнае надвор'е быў амаль непрыкметным. І яго, сапраўды, не заўважалі, як не заўважаюць паветра, каторым дыхаюць, здароўя, пакуль яно ёсць, але жыццё вёскі было цесна звязана з гэтым сімвалам веры. Крыж маўкліва сустракаў усіх, хто наведваўся ў вёску, а з вёскі праводзіў у дарогу. Калі хто адыходзіў у вечнасць, яго аднавяскоўцы праводзілі да крыжа. Менавіта тут адбывалася апошняе развітанне з вёскай, з суседзямі. Родныя прасілі прабачэння за віну ці правіннасць у нябожчыка. У пагоду аднавяскоўцы збіраліся на маёвую малітву. Увогуле гэта было намоленае месца. Ніхто ніколі не ўспамінаў, як крыж з'явіўся, але кожны быў упэўнены, што ён быў, ёсць і заўсёды будзе. Аднойчы ўзрушаная Гэля прыбегла да суседкі і з парога загаласіла: "Вандзя! Ці мне здаецца, ці наш крыж знік!"


Крыж за вёскай Завараты. *Фота Змітра Лупача*

На жаль, Гэлі не здалося. Крыж знеслі вандалы. Здагадваліся хто, але сведкаў не было. З вёскі нібы хто выняў душу.

Інакш руйнавалі крыжы і здымалі званы з нашай ашмянскай святыні. Гэта адбывалася прылюдна ў светлы дзень. Людзі чулі, як трашчэў трос, зачэплены за галоўную вежу, як падалі званы. Зямля застагнала ад болю і жаху, а людзі маліліся і выцiралі скупыя слёзы.

Яшчэ доўга боль ад убачанага не сціхаў, а спілаваныя вежы касцёла нагадвалі чалавека, які рукі-абрубкі ўзносіў да неба і ў сваёй бездапаможнасці сцінаўся ад пакут.

Усе вандалы закончылі вельмі дрэнна. Людзі казалі, што гэта кара Боская. Мне здаецца, што Магутны Бог не хуткі на расправу. Ён дае кожнаму шанец выправіць грэх, залагодзіць віну. Але намоленае месца, абраз, крыж – гэта адухоўленыя рэчы. У іх укладзена чалавечая душа праз малітву, памяць. А душа, як вядома, баліць. І гэты боль карае вандалаў. Хто закончыў жыццё самагубствам, хто загінуў у ДТЗ, а іншых знішчыла страшная хвароба. Гэта і ёсць перасцярога вандалам усіх часоў на канкрэтным прыкладзе.

А нашая святыня, як казачная Папялушка, перажыла прыніжэнне і боль (была і складам, і заводам, гарэла, руйнавалася) і дачакалася свайго самага вялікага адраджэння.

Дзякуючы Усемагутнаму Богу і нашаму пробашчу Яну Пузыну ў касцёле праводзіцца нечуваны паводле свайго маштабу капітальны рамонт. Колькі працы і клопату пробашча ўкладзена – не пералічыць! Калі хто дачакаецца канца рамонту, то будзе маліцца ў годнай, светлай і надзейнай святыні. Ужо цяпер прыхаджане не мёрзнуць, бо касцёл абаграваецца.

На жаль, гэтая праца ўжо іншага пакалення. Маё пакаленне адчувае віну за ўсё, што адбывалася і моліцца за грахі.

Няхай мае рыфмаваныя радкі прагучаць як пакаянне.

*Даруй нам, літасцівы Бог,*
*За спілаваныя крыжы.*
*За вежаў пакалечаныя рукі,*
*Што на тым, на грэшным рубяжы.*
*Мы забывалі пра Хрыстовы мукі.*
*Даруй за той бязмерны страх,*
*Драпежнымі трымаў што кіпцюрамі.*
*Стаяў у нашых спуджаных вачах*
*І вёў нас не Хрыстовымі шляхамі.*
*Мы не вялі сваіх дзяцей у храм,*
*Самі краліся туды ўпотай.*
*Два твары мы насілі тут і там –*
*Так даражылі мы сваёй работай.*
*Даруй нам, літасцівы Бог,*
*Што цела Збаўцы доўга не прымалі.*
*А Ты ад гора нас заўжды бярог,*
*І дня свабоднага ў марах мы чакалі.*
*За веру, праўду, за Хрыста*
*Не неслі галаву на плаху.*
*Мы атэістаў слухалі, не святара*
*І самі атэістамі былі са страху.*
*Даруй нам, літасцівы Бог,*
*Прымі малітву грэшніка зямнога.*
*Малю Цябе, каб Ты сцярог*
*Зямлю маю, дзяцей, ды і мяне слабога!*

***Галіна Даўгашэй,***
*Ашмяны*

# У чаканні Вялікадня

**Гэтыя мае ўспаміны з далёкага, дашкольнага дзяцінства даўно просяцца на паперу. Ім ужо цесна ў закутках маёй памяці.**

**■ Алена Пажога**

Час чакання Вялікадня... Вялікі пост для мяне тады доўжыўся бясконца. Звыклае жыццё змяняла сваю хаду. У час посту ў нашай сям'і не слухалі радыё, не заводзілі патэфон. Старэйшыя шмат маліліся. Абавязкова ездзілі да споведзі ў касцёл у Глыбокае або ў Гадуцішкі. Я яшчэ не разумела, што адбывалася, але адчувала велічнасць і значнасць урачыстасці, бо ні да якога іншага свята не рыхтаваліся так доўга і старанна.

Таксама змянялася і ежа. На стале часта быў кісель з аўсяных шматкоў, які мне здаваўся нясмачным. А вось раўгеню (або путру) піла з задавальненнем. Гатавалі таксама грыбную поліўку, гарохавы і фасолевы супы. Варылі або смажылі на алеі бульбу. Да бульбы былі селядцы, вінегрэт, квашаная капуста, салёныя агуркі. Пяклі тонкія бліны, разведзеныя на вадзе, а яшчэ блінцы з селядцом. Хоць у сям'і было дзесяць душ, галодным і злым не заставаўся ніхто.

У перыяд посту шмат працавалі, рабілі ў хаце генеральную ўборку: здымалі са сцен абразы, вышыванкі, з акон і дзвярэй – занавескі, усё мылі. Даставалі з акон падвойныя рамы. Бялілі сцены, печ. Фарбавалі круглую печку. Старэйшыя сёстры мылі столь, чысцілі і націралі да бляску высокую чырвоную шафу – мамін пасаг. Нават мне дазвалялі прадіраць анучкай ніжнія шуфлядкі. Без справы ніхто не заставаўся. Цётачка Ядзя – татава сястра – шыла да свята для нас абноўкі. Яна была выдатнай майстрыхай. З навакольных вёсак да яе прыходзілі жанчыны і дзяўчаты з просьбай пашыць ім сукенку, блузку ці спадніцу. Усім хацелася на Вялікдзень быць асабліва прыбранымі і прыгожымі. Я прачыналася і засынала пад стракатанне швейнай машынкі.

Да Вербнай Нядзелі рабіліся вербачкі з галінак вярбы і ядлоўцу. Іх перавязвалі каляровымі стужкамі і ўпрыгожвалі самаробнымі папяровымі кветкамі. Калі тата з мамай вярталіся з касцёла, то вербачкай злёгку сцёбалі па спіне і прыгаворвалі: "Не я б'ю, вярба б'е. Праз тыдзень – Вялікдзень, праз сем ноц – Вельканоц".

Апошні тыдзень посту быў вельмі напружаны для дарослых і вельмі хваляваў прадчуваннем свята мяне, малую. Мама пякла булкі з разынкамі, з макам, з тварагом, варыла ў алеі хрушчы, фарбавала ў шалупінні цыбулі яйкі, гатавала каўбасы і квашаніну, прыносіла вэнджаныя каўбасы, кумпяк і сала з вяндлярні, якая была на суседнім хутары. Мне так хацелася паспрабаваць гэтай смакаты! Але дарослыя казалі: "Калі не будзеш пасціць цяпер, то на Вялікдзень будзеш сядзець пад карытам". Мне ж, вядома, гэтага не хацелася, таму даводзілася з цярплівасцю чакаць святой нядзелі.





***

Маліся, калі не хапае
Моцы маліцца і жыць.
Калі адчай падступае
І сэрца не супраць грашыць.

Маліся, калі не ахвота,
Калі ўсё ў справах жыццё.
Вакол пастаянна турбота,
Людскія праблемы, ныццё.

Маліся, маліся няспынна,
Мацуйся малітвай жывой.
І пройдзеш шлях непахісна,
І Госпад побач з табой!

***Ю. Кісялевіч***

***

Не пакідай мяне ніколі:
Ні ў светлы дзень, ні ў час такі,
Калі, пякучыя да болю,
Цякуць слязінкі са шчакі.

Не трэба болей мне нічога,
Каб толькі ведаць: Ты са мной.
Цяжкой была Твая дарога,
Не кожны крочыў за Табой.

І я раблю не ўсё, як трэба,
Даруй, прабач, засцеражы.
І падкажы, о Божа, з неба,
Дай лекаў-зёлак для душы.

Не пакідай мяне ніколі:
Ні ў светлы дзень, ні ў час такі,
Калі, пякучыя да болю,
Цякуць слязінкі са шчакі.

***Даната Варабей,***
*г. Мядзел*

## Пытанне "на засыпку"

Ксёндз абыходзіць парафію па калядзе. У адной сядзібе гаспадыня просіць: "Ксёндз-пробашч, акрапіце, калі ласка, жыллё святой вадзіцай, каб усё грэшнае выйшла". "А самі дзе жыць будзеце?" – з усмешкай запытаў святар.

## Важкі аргумент

Хлопец заляцаецца да дзяўчыны. Абое з прыстойных сем'яў вернікаў, добра выхаваныя, адукаваныя. Справа ідзе да вяселля. Ужо і аб'ява была ў касцёле, што пара рыхтуецца да шлюбу.

Іхнія бабулі, ідучы на нядзельную Імшу, абмяркоўваюць гэту важную падзею. Бабуля дзяўчыны кажа: "Добры твой унук, высокі, прыгожы, працавіты, але навошта носіць бараду?" Бабуля ўнука не разгубілася: "А Езус таксама быў барадаты!" Сяброўка не знайшла што адказаць на такі нечаканы аргумент.

## Як слова наша адгукнецца

Суседка ў спадарыні Малгосі вельмі нястрыманая, заўсёды знойдзе прычыну пасварыцца. Малгося, жывучы не адзін год побач, старалася не адказваць на яе зласлівыя наскокі.

Апошнім часам у крыклівай Ядзі ў доме ўсё не ладзіцца: муж запівае, сына з работы звольнілі, дачка моцна захварэла. Ядзя і пытаецца ў Малгосі: "Чаму ты ніколі мне не пярэчыш, а моўчкі заўсёды выслухоўваеш, а моўчкі зачыняеш дзверы ці шчыруеш у агародзе, і ў сям'і ў цябе згода і супакой?"

На што тая адказала: "У касцёле святар казаў, што мы свабодныя людзі ў сваім выбары, дараваным нам Богам. Я не прымаю тваё абвінавачванні, зневажанні і праклёны, таму і не злуюся. А ты нясеш гэты бруд і несправядлівасць у свой дом – вось і вынікі маеш".

***Нэля Лось,*** *Лынтупы*



# Евхаристия в космосе

**Американский астронавт Майкл Скотт Хопкинс, член экипажа корабля Союз ТМА-10М, признался, что брал с собой в космос Пресвятые Дары и причащался на МКС. Об этом он рассказал изданию National Catholic Register.**

Майкл вырос в семье методистов, но после брака с католичкой перешел в Католическую Церковь и воспитывает своих детей в католической вере. Когда стало известно, что астронавт примет участие в космическом полете на МКС, он задался вопросом, сможет ли взять с собой в полет Тело Христово. После долгих консультаций архиепископ Даниэль Николас Динардо разрешил Майклу Хопкинсу взять с собой в космос Пресвятые Дары. Астронавт взял с собой небольшую дарохранительницу с шестью облатками, каждая из которых была поделена на 4 части. Таким образом, он мог бы причаститься 24 раза, совершая свое полугодовое космическое приключение.

"Каждая вещь, которую мы берем в космос, должна быть задокументирована и классифицирована. Когда вы летите на российском корабле, то члены Российского космического агентства в течение двух недель взвешивают все личные вещи и утверждают их для космического полета. Но я не мог отдать Тело Христово кому-то другому", – рассказывает Майкл Скотт Хопкинс. – Русские повели себя замечательно. Я пришел со своими личными вещами и объяснил смысл дароносицы и ее значение для меня: "Для вас это просто хлеб или вафли, но для меня это Тело Христово". Они меня поняли и сказали: "Хорошо, мы не будем это взвешивать, вес тут небольшой, нет проблем. Можете оставить это у себя".

Все двери были открыты, и я мог взять Дары в космос, чтобы причащаться каждую неделю. Несколько раз я причастился, скажем, в особых случаях. Я дважды выходил в открытый космос, и утром в эти дни я причащался. Для меня было важно знать, что Иисус со мной, когда я выходил через люк в безвоздушное пространство. Последний раз на орбите я причастился в модуле "Купол", представляющем собой большое окно с видом на Землю. Это был особенный момент перед моим возвращением домой".

Майкл Скотт Хопкинс был членом экипажа корабля Союз ТМА-10М вместе с Олегом Котовым и Сергеем Рязанским. Их полет проходил с 26 сентября 2013 года по 11 марта 2014 года. Всего американский астронавт провел в космосе 168 суток.

*Перевод gaudete.ru*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры! Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.**

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Зарана Высоцкая** *(Глыбокае)*, **Ірына Пашкевіч** *(Празарокі)*, **Людміла Падаляка** *(Полацк)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Ірына Руткоўская** *(Радзюкі)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Марына Мяцёлкіна** *(Рубяжэвічы)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Бугаева Э.Н.** *(Лынтупы)*, **Марыя Жусель** *(Браслаў)*, **Малгажата Бервячонак** *(Варанцы)*, **Юран Б.І.** *(Браслаў)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Валянціна Падгайская** *(Паставы)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **вернікі з Браслава**, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ірына Канчыц** *(Гомель)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Марына Мяцёлкіна** *(Рубяжэвічы)*, **Эмма Козел** *(Докшыцы)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Дулінская Т.І.** *(Вазоўнікі)*, **Алена Сакалоўская** *(Павяцце)*, **Грэцкая С.І.** *(Вазоўнікі)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:
***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

# Ці ведаеце Вы святых і бласлаўлёных, дзейнасць якіх звязана з Беларуссю?

**Паспрабуйце правільна адказаць на пытанні новага тэсту пра святых і бласлаўлёных, якія ў розныя часы ахвярна служылі Касцёлу на нашых землях.**

**1** Гэты бласлаўлёны нарадзіўся ў Літве, аднак вельмі шмат зрабіў для нашай краіны, мужна абараняючы беларускую мову і культуру. Ён заснаваў новы жаночы ордэн Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарыстыі і кляштар айцоўмарыянаў у Друі, ад якога распачалася надзвычай багатая гісторыя службы марыянаў у Беларусі.



**А.** Станіслаў Папчынскі
**Б.** Юры Матулевіч
**В.** Максімільяна Кольбэ

**2** Гэтага святога называюць апосталам Палесся. Нягледзячы на смяротную пагрозу з боку ваяўнічых казакоў, якія лічылі, што толькі праваслаўная вера мае права на існаванне, ён працягваў бясстрашна евангелізаваць беларускія землі, навяртаючы ў каталіцтва сотні душ. Быў схоплены і закатаваны ў Янаве-Палескім (цяпер г. Іванава Брэсцкай вобласці) атрадам казакоў.



**А.** Святы Андрэй Баболя
**Б.** Святы Станіслаў
**В.** Святы Марцін Турскі

**3** Гэты святы быў Полацкім арцыбіскупам, умацоўваў грэка-каталіцтва і лічыўся прыхільнікам еднасці Заходняй і Усходняй Цэркваў. Быў жорстка забіты за сваю дзейнасць раз'юшаным натоўпам падчас Віцебскага паўстання ў 1623 годзе. З'яўляецца галоўным апекуном Віцебскай дыяцэзіі.



**А.** Святы мучанік Себасцьян
**Б.** Святы Язафат Кунцэвіч
**В.** Святы Якуб

**4** Гэтыя сёстры былі забітыя гітлераўцамі. Манахіні ахвяравалі сваё жыццё за бацькаў сем'яў і кс. А. Зенкевіча, якія павінны былі загінуць як закладнікі. Яны прасілі Бога: "Мой Божа, калі неабходная ахвяра з жыцця, то няхай лепш нас расстраляюць, чым тых, у каго ёсць сем'і..."



**А.** Бласлаўлёныя мучаніцы з Навагрудка
**Б.** Святыя мучаніцы Пэрпэтуя і Фэліцыта
**В.** Манахіні з супольнасці Маці Міласэрнасці

**5** Гэтыя святары ў 1943 годзе прынялі пакутніцкую смерць, не пакінуўшы сваіх парафіян. Яны былі спаленыя ў Росіцы жывымі разам з сотнямі мясцовых жыхароў.




**А.** Бласлаўлёныя Юрый Кашыра і Антоній Ляшчэвіч
**Б.** Святыя Кірыл і Мятод
**В.** Святыя мучанікі Марцэлін і Пётр

**6** У мінулым годзе быў распачаты працэс яго беатыфікацыі*. Гэта асоба – заснавальнік Чырвонага Касцёла ў Мінску.




**А.** Казімір Свёнтэк
**Б.** Эдвард Вайніловіч
**В.** Зыгмунт Лазінскі

**7** Ён нарадзіўся ў Літве. Пасля атрымання прэзбітэрскага пасвячэння ён працаваў у Варклянах (Віцебшчына) і ў Быхаве (Магілёўшчына). Пазней быў таемна прызначаны дапаможным біскупам Магілёўскай дыяцэзіі. Беатыфікацыя гэтага былога дапаможнага біскупа Магілёўскай дыяцэзіі пройдзе 25 чэрвеня 2017 года ў Вільнюсе.



**А.** Зыгмунт Лазінскі
**Б.** Тэафілюс Матулёніс
**В.** Юры Матулевіч

**8** Гэты святар, выпускнік Пінскай духоўнай семінарыі, беразвецкі пакутнік, быў расстраляны ў 1942 годзе ва ўрочышчы Барок каля Глыбокага. У 1999 годзе Папа Ян Павел II далучыў яго да ліку бласлаўлёных.



**А.** Мечыслаў Багаткевіч
**Б.** Баляслаў Мацieўскі
**В.** Юры Кашыра

***Падрыхтвала***
***Ірына Радзевіч***

Праверыць сябе можна паглядзеўшы правільныя адказы, змешчаныя на старонцы 12

на старонцы 12

*Беатыфікацыя – акт надання асобе пасмяротнага тытула "бласлаўлёны"

# Ксёндз Здзіслаў Вэдэр SDB: “Духоўная фармацыя не скончыцца ніколі!”

## Духоўны айцец клерыкаў ксёндз Здзіслаў Вэдэр SDB распавёў пра сваё служэнне ў семінарыі

**Ксёндз-салезіянін Здзіслаў Вэдэр SDB з’яўляецца духоўным айцом у Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі. У сённяшнім інтэрв’ю святар распавядае “Каталіцкаму Весніку” пра духоўную фармацыю будучых святароў і пра сваю паслугу для іх.**



**– Айцец Здзіслаў, калі Вы сталі духоўным айцом семінарыі?**

– У 2015 годзе на спатканні святароў біскуп Гродзенскі прапанаваў мне стаць духоўным айцом у семінарыі. Прыехаўшы сюды, напачатку я ўвесь час думаў, чаго на гэтым месцы ад мяне чакае Бог і як правільна выкарыстаць час, дадзены мне? Бо ў жыцці нічога не адбываецца выпадкова. Я думаў і маліўся, каб Бог нейкім чынам даў пазнаць, што менавіта Ён хоча. І вось аднойчы сюды з Польшчы прыехаў святар, які распавёў пра блаславёную мучаніцу Мар’яну Бярнацкую, тую, якая пайшла на смерць падчас вайны замест цяжарнай нявесткі. Разам з іншымі закладнікамі Мар’яну Бярнацкую расстралялі на Навумавіцкіх фартах пад Гародняй 13 ліпеня 1943 года.

Папа Ян Павел II у 1999 годзе далучыў мучаніцу Мар’яну і іншых мучанікаў часоў Другой сусветнай вайны да ліку блаславёных. Я быў на гэтай беатыфікацыі і бачыў, як дары да алтара несла тая нявестка, якая была ўратаваная.

Святар, што прыехаў у семінарыю, пакінуў таксама кнігу пра блаславёную. Я калі праглядаў яе, на вочы трапіўся фотаздымак, на якім былі луг і прыгожыя кветкі з надпісам: “Квітней там, дзе цябе пасадзіў Бог” *(усміхаецца)*. Я лічу, гэтае маё прызначэнне не было выпадковым.

**– Духоўны айцец семінарыі – хто гэта?**

– Духоўная семінарыя – месца, дзе рыхтуюцца стаць святарамі тыя людзі, якія адчуваюць пакліканне. Фармацыя будучага святара трывае шэсць гадоў. Аднак гэта час не толькі для навучання. Зразумела, што навука неабходная, каб потым эфектыўна абвяшчаць Евангелле і дапамагаць у вырашэнні складаных пытанняў людзям, для якіх служыш. Але, апроч навукі, ёсць яшчэ адна рэч: каб мы самі былі сапраўднымі вернікамі. Важна, каб мы не шукалі сваёй выгады, карысці. Трэба, каб вучыліся забываць пра сябе, а шукалі толькі Божай волі. У гэтых рэчах і дапамагае будучым святарам духоўны айцец семінарыі.

**– А якія функцыі ў якасці духоўнага айца Вы выконваеце?**

– Найважнейшым заданнем духоўнага айца з’яўляецца дапамога семінарыстам у духоўным узрастанні, каб яны маглі стаць святарамі, цалкам адданымі Богу. У мае абавязкі ўваходзіць спавядаць семінарыстаў, прамаўляць ім канферэнцыі, праводзіць індывідуальныя размовы на тэмы духоўнага жыцця, дапамагаць у развязванні розных няпростых пытанняў, клапаціцца пра супольную малітву, пра набажэнствы для іх.

Я праводжу канферэнцыі для клерыкаў кожны тыдзень, спавядаю ў любы момант, калі гэта патрэбна. Для навучэнцаў першага курса вяду заняткі “Уводзіны ў духоўнае жыццё”. Увогуле, калі ёсць патрэба ў нейкай духоўнай парадзе, семінарысты заўсёды могуць да мяне прыйсці, у кожны момант.

**– Як можна ахарактарызаваць духоўную фармацыю? І якое месца яна займае ў падрыхтоўцы да святарства?**

– Фармацыя будучых святароў мае некалькі вымярэнняў. Чалавечая фармацыя навучае культуры адносін да іншых. Істотным элементам падрыхтоўкі з’яўляецца інтэлектуальная фармацыя з атрыманнем ведаў. Вылучаецца таксама духоўная фармацыя, якая не скончыцца ніколі. Яна скончыцца з астатнім днём чыстца *(усміхаецца)*. Да канца жыцця неабходна працаваць над сабой. Гэта самы доўгі і пастаянны працэс. Будучыя святары павінны ўмець і імкнуцца вырашыць усе праблемы не так, як дыктуе мода, не так, як іншыя ўяўляюць, але так, як навучае Езус. Няма пэўнага адпачынку ў працэсе духоўнай фармацыі. Яна трывае заўсёды. Не толькі ў семінарыі, не толькі тады, калі ходзім у сутане або знаходзімся ў касцёле. Але ўсюды павінны так сябе захоўваць, каб даваць выразнае сведчанне таго, што найвялікшай любоўю з’яўляецца Хрыстос і што мы сваё жыццё аддаём Яму.

**– Распавядзіце, калі ласка, падрабязней, у якіх духоўных практыках удзельнічаюць будучыя святары?**

– Заўсёды ёсць малітва ранкам (ютрань) і ўвечары, штодзённа семінарысты ўдзельнічаюць у святой Імшы, разважаюць над Словам Божым. Ёсць прыватная малітва на ружанцы, Вяночак да Божай Міласэрнасці і іншыя. У некаторыя дні адбываецца адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Штомесяц ёсць дзень вольны ад навукі, калі праводзяцца духоўныя канферэнцыі і ёсць час на споведзь. Ладзяцца таксама адвэнтавыя і вялікапосныя рэкалекцыі. Штотыдзень клерыкі старэйшых курсаў ідуць са служэннем у парафіі ў Гродне. З двума малодшымі курсамі ідзём у катэдру на святую Імшу. Клерыкі таксама часам выязджаюць у дзіцячы дом, у дом састарэлых.

**– Вялікі пост у Каталіцкім Касцёле – гэта асаблівы час для навяртання, для духоўнага росту. Што б Вы пажадалі чытачам “Каталіцкага Весніка” для годнага перажывання гэтага перыяду?**

– Мы ведаем, калі найбольш падаем, з чаго найчасцей спавядаемся. І Вялікі пост – гэта час на тое, каб пазбавіцца тых рэчаў, якія вядуць нас да граху. Не трэба ўваходзіць у зону небяспекі. Кожны мае права быць вясёлым і радасным, але там, дзе пахне грахом, заўсёды варта сказаць – стоп. Пражываць час Вялікага посту трэба так, каб мы навялі парадак у нашым жыцці не толькі на гэтыя 40 дзён, але і на далейшы час. Каб мы ўпарадкавалі сваё жыццё і не ўпадалі ў гэтыя слабасці, у якія часцей за ўсё ўпадаем. Усё гэта можна перамагчы пры дапамозе Божай ласкі. Важнай будзе з’яўляцца праца над сабой і малітва. Кожнаму з Вас раю ў часе Вялікага посту мець больш часу на Пана Бога, часцей думаць пра Яго і мець пастаянную любоў да Яго. Бо Госпад ёсць крыніцай праўдзівай радасці, а грэх ніколі не прывядзе да шчасця.

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*

# Адпустовая ўрачыстасць у Гірстунах



**У панядзелак, 20 сакавіка, у капліцы святога Юзафа, што ў Гірстунах Глыбоцкага дэканату, адбылася адпустовая ўрачыстасць.**

Святую Імшу ўзначаліў пробашч парафіі ў Канстанцінаве ксёндз Антон Лагунёнак. Слова да вернікаў прамовіў дыякан Алег Хмылко, які прыняў дыяканскае пасвячэнне 25 лютага гэтага года. Гэта была яго першая адпустовая гамілія, таму, па словах дыякана, ён вельмі хваляваўся. Але гэта не перашкодзіла добра падрыхтавацца і прамовіць свае слова да вернікаў, у якім распавёў пра жыццё і духоўны прыклад святога Юзафа.

Больш падрабязна пра гэту падзею чытайце на нашым сайце ***cathilicnews.by***

*Зміцер Лупач*

# Piligrymka.by запрашае ў паломніцтвы да святых мясцін

**З глыбокай старажытнасці хрысціяне выпраўляліся ў падарожжы, каб убачыць мясціны, звязаныя з зямным жыццём Збаўцы, а таксама наведаць месцы аб'яўлення Маці Божай, жыцця і дзейнасці Святых. Мільёны людзей імкнуліся і імкнуцца апынуцца ў гэтых мясцінах, каб узнесці словы малітвы, падзякі і просьбы. Колькасць паломнікаў расце з году ў год, і ў цяперашні час цікавасць да паломніцтваў не згасае. І не дзіўна: усё больш людзей становіцца на шлях самаспазнання і духоўнага развіцця, звяртае свой позірк да Бога. Да таго ж паломніцтва з'яўляецца наймагутнейшым інструментам у духоўным развіцці чалавека, бо дазваляе на час адарвацца ад зямных падзей і цалкам засяродзіцца на Богу, што ў сваю чаргу спрыяе моцнаму духоўнаму ўздыму падчас паломніцтва.**

**Але час ідзе, і ў дадатак да пешых падарожжаў з'явіліся паломніцтвы, якія магчыма ажыццявіць на камфартабельным аўтобусе ці на самалёце.**



Парафія Св. Язафата Кунцэвіча ў Расонах запрашае прыняць удзел у пілігрымках (паломніцтвах) і падарожжах да святых і гістарычных месцаў Заходняй Еўропы і Ізраіля, якія прываблівають людзей з розных куткоў свету, выклікаюць захапленне і прыносяць духоўнае ўзбагачэнне.

Мы прапануем пілігрымкі да святынь Еўропы: **Фаціма, Лурд, Рым (Ватыкан), Падуя, Чэнстахова, Ліхень...** Вы зможаце не толькі памаліцца ў святынях Еўропы, але і ўзбагаціць свой досвед падчас аглядавых экскурсій **у Кёльне, Парыжы, Лісабоне, Барселоне, Венецыі, Празе, а таксама ў пілігрымцы на Святую Зямлю – Ізраіль.**

Падчас пілігрымкі ў Ізраіль Вы ўбачыце **Ерусалім, Назарэт, Віфлеем, Хайфу, Галілейскае і Мёртвае моры, раку Іардан, гару Фавор, Кану Галілейскую і многае іншае.**

Сотні паломнікаў з Беларусі наведалі з намі Ізраіль за апошнія некалькі гадоў. Перавага паломніцтваў з намі ў тым, што духоўнае ўзбагачэнне падчас знаходжання ў святых месцах можна сумясціць з адпачынкам і культурна-пазнавальнай праграмай.

Далучайцеся да нас, і Вам будзе гарантавана добрая кампанія, а таксама насычаная экскурсійная праграма. Кожную пілігрымку суправаджае святар.

**У 2017 годзе мы з радасцю запрашаем Вас у наступныя пілігрымкі:**

**30 красавіка 2017 – Пілігрымка ў Ізраіль**
Вылет з Мінска – 7 начэй.
**Калі:** 30 красавіка – 7 мая 2017 г.
Кошт – 850 даляраў.

**1 мая 2017 – Пілігрымка да месца пахавання св. Язафата Кунцэвіча ў Рым і Ватыкан – 9 дзён**
**Калі:** 1 – 9 мая 2017 г.
Мінск – Чэнстахова – Вена – Рым / Ватыкан – Венецыя – Мінск
Кошт – 340 еўра + VISA.

**31 мая – 5 чэрвеня 2017 – Пілігрымка ў Ізраіль**
Вылет з Кіева – 5 начэй.
Кошт – 695 даляраў.

**3 чэрвеня 2017 – Пілігрымка на Мальту "Слядамі апостала Паўла".**
**Калі:** 3 – 12 чэрвеня 2017 г.
Кошт – 800 еўра + VISA.

**18 чэрвеня 2017 – Пілігрымка ў Меджугор'е (Боснія і Герцагавіна) – 12 дзён**
Мінск – Кракаў – Браціслава – Заграб – Меджугор'е – Дуброўнік – Мінск (з адпачынкам на моры)
**Калі:** 18–29 чэрвеня 2017 г.
Кошт – 550 еўра + VISA.

**6 ліпеня 2017 – Нацыянальная пілігрымка да месца аб'яўлення Маці Божай у Фаціме (Партугалія) – 16 дзён**
**Калі:** 6 – 21 ліпеня 2017 г.
Мінск – Ліхень – Кёльн – Парыж – Лурд – Санцьяга-дэ-Кампастэла – Фаціма / Фаціма – Барселона – Падуя – Чэнстахова – Мінск
Кошт – 680 еўра + VISA.

**11–16 ліпеня 2017 – Пілігрымка ў Ізраіль**
Вылет з Кіева – 5 начэй.
Кошт – 695 даляраў.

**23 ліпеня 2017 – Нідэрланды і Бельгія. Санктуарый Маці Божай у Банэ, Бельгія – 8 дзён**
**Калі:** 23 – 30 ліпеня 2017 г.
Мінск – Ліхень – Хельмштэдт – Банэ – Брусель – Гент / Бруге – Амстэрдам – Ліхень – Мінск
Кошт – 450 еўра + VISA.

**1 жніўня 2017 – Пілігрымка да базілікі св. Антонія. Падуя, Італія. З адпачынкам на моры – 11 дзён**
Мінск – Кракаў – Вена – Рыміні / Рыміні (Сан-Марына) – Падуя – Венецыя – Мінск
**Калі:** 1 – 11 жніўня 2017 г.
Кошт – 489 еўра + VISA.

**13 жніўня 2017 – Пілігрымка ў хрысціянскую Грузію. З адпачынкам на моры**
Вылет з Мінска.
**Калі:** 13 – 21 жніўня 2017 г.
Тбілісі – Кахетыя – Сігнахі – Цынандалі –Мцхета – Вардзія – Кутаісі – Батумі
Кошт – 850 даляраў.

**NEW 18-29 жніўня 2017 – Пілігрымка ў Ізраіль з наведваннем гары Сінай. Вылет з Кіева**

**24 жніўня 2017 – Пілігрымка на зямлю св. Брыгіты, апякункі Еўропы. Швецыя – 7 дзён**
Мінск – Талін – Хельсінкі – Стакгольм – Рыга – Аглона – Мінск
**Калі:** 24 –30 жніўня 2017 г.
Прыкладны кошт – 420 еўра + VISA.

**4 верасня 2017 – Пілігрымка да месца пахавання св. Язафата Кунцэвіча ў Рым і Ватыкан – 9 дзён**
**Калі:** 4 – 12 верасня 2017 г.
Мінск – Чэнстахова – Вена – Рым / Ватыкан – Венецыя – Мінск
Кошт – 340 еўра + VISA.

**17 верасня 2017 – Пілігрымка ў Ізраіль. Вылет з Мінска – 7 начэй**
**Калі:** 17–24 верасня 2017 г.
Кошт – 850 даляраў.

**17 верасня 2017 – Пілігрымка ў Ізраіль з адпачынкам на моры. Вылет з Мінска – 11 начэй**
**Калі:** 17 – 28 верасня 2017 г. Кошт – 1140 даляраў.

**2 кастрычніка 2017 – Пілігрымка да месца аб'яўлення Маці Божай у Фаціме (Партугалія) – 16 дзён**
**Калі:** 2 – 17 кастрычніка 2017 г.
Мінск – Ліхень – Кёльн – Парыж – Лурд – Санцьяга-дэ-Кампастэла – Фаціма / Фаціма – Барселона – Падуя – Чэнстахова – Мінск
Кошт – 680 еўра + VISA.

**13-18 кастрычніка 2017 – Пілігрымка ў Ізраіль. Вылет з Кіева – 5 начэй**
Кошт – 695 даляраў.

**17 кастрычніка 2017 – Пілігрымка ў Ізраіль**
Вылет з Мінска – 7 начэй.
**Калі:** 17 – 24 кастрычніка 2017 г. Кошт – 850 даляраў.

**17 кастрычніка 2017 – Пілігрымка ў Ізраіль з адпачынкам на моры**
Вылет з Мінска – 11 начэй.
**Калі:** 17 – 28 кастрычніка 2017 г.
Кошт – 1140 даляраў.

**1–6 лістапада 2017 – Пілігрымка ў Ізраіль.**
Вылет з Кіева – 5 начэй.
Кошт – 695 даляраў.

**NEW 4-16 лістапада 2017 – Пілігрымка ў Мексіку. Санктуарый Маці Божай Гвадэлупскай – 12 дзён**
Кошт – 2690 даляраў + VISA.

**1-7 снежня 2017 – Калядны кірмаш. Хрысціянскія традыцыі**
Мінск – Кракаў – Браціслава – Прага – Дрэздэн – Вроцлаў – Мінск
**Калі:** 1 – 7 снежня 2017 г.
Кошт – 385 еўра + VISA.

**13 снежня 2017 – Перадкалядная пілігрымка па Германіі – цудоўная казка!**
У праграме – семінар "Германія сёння. Гісторыя Хрысціянства"
Хельмштат – Магдэбург – Брауншвейг – Вольфсбург – Гослар – Берлін або Дрэздэн
**Калі:** 13–23 снежня 2017 г.
Кошт – 420 еўра + VISA.

**26 снежня 2017 – 2 студзеня 2018 40-я Агульнаеўрапейская сустрэча моладзі падчас Новага 2018 года. Базэль, Швейцарыя**

Кошты пададзены для азнаямлення, аплата можа праводзіцца ў беларускіх рублях.

Больш падрабязна з праграмамі пілігрымак можна азнаёміцца на нашым сайце www.piligrymka.by, а таксама атрымаць інфармацыю па наступных тэлефонах:

**Velcom (29) 602-00-98, МТС (29) 708-00-78.**

## Даведка пра арганізатараў пілігрымак

Рымска-каталіцкая парафія св. Я. Кунцэвіча ў г. п. Расоны з'яўляецца афіцыйным арганізатарам паломніцкіх аўтобусных тураў па святых месцах Еўропы і авіятураў у Ізраіль, на Святую Зямлю. Досвед працы ў арганізацыі пілігрымак – больш за 6 гадоў. Сваіх прадстаўнікоў мы маем у Мінску, Віцебску, Полацку і іншых гарадах Беларусі. Сёння мы можам прапанаваць больш за дзясятак цалкам прапрацаваных маршрутаў па святых месцах: паломніцтвы ў Ізраіль, пілігрымкі да Маці Божай у Лурд (Францыя) і ў Фаціму (Партугалія), да труны св. Апостала Якуба ў Санцьяга-дэ-Кампастэла (Іспанія), па месцах місійных вандровак св. Апостала Паўла (Мальта), па слядах святых Кірыла і Мяфодзія (Чэхія), у Рым і Ватыкан да месца пахавання св. Я. Кунцэвіча (Польшча, Аўстрыя, Італія).

Арганізатары пілігрымак не маюць камерцыйных мэтаў. З усімі маршрутамі можна азнаёміцца на афіцыйным сайце парафіі: www.piligrymka.by.

# Каляндар на красавік



**У гэтым месяцы мы адзначаем самае вялікае свята хрысціянаў – Вялікдзень. А таксама перажываем Вялікі Тыдзень – час разважанняў пра пакуты і смерць на крыжы Езуса Хрыста. Асабліва вылучаюцца ў Вялікім Тыдні Вялікі чацвер, Вялікая пятніца і Вялікая субота.**

**9 красавіка – Вербная, або Пальмовая нядзеля.**

У гэтую нядзелю ў знак ушанавання і памяці пра трыумф Езуса Хрыста пры ўваходзе ў горад Ерусалім асвячаюцца галінкі вярбы, ядлоўцу, часта ўпрыгожаныя кветкамі і стужкамі.

**13 красавіка – Вялікі чацвер.**

У Вялікі чацвер адбылася Тайная – Апошняя – Вячэра Езуса Хрыста са сваімі вучнямі-апосталамі. Падчас святой Імшы ў Вялікі чацвер біскуп ці святар абмывае ногі дванаццаці вернікам у знак пакоры і любові да бліжняга, паўтараючы прыклад Хрыста, Які мыў ногі апосталам. Ад гэтага дня ў касцёле моўкнуць званы і званочкі, усе крыжы пакрываюцца фіялетавымі вэлюмамі, падчас святой Імшы гучаць толькі трашчоткі замест званочкаў. Гэта таксама дзень устанаўлення сакрамантаў Эўхарыстыі і святарства. Вернікі віншуюць сваіх святароў з днём святарства.

**14 красавіка – Вялікая пятніца.**

Гэта дзень скрухі і роздуму ўсяго хрысціянскага свету. Гэта адзіны дзень ва ўсім літургічным годзе, калі ў касцёлах не служыцца святая Імша, а толькі адбываюцца абрад ушанавання святога крыжа і адарацыя-пакланенне Найсвяцейшаму Сакраманту. У Вялікую пятніцу захоўваецца строгі пост без мясных страў.

**15 красавіка – Вялікая субота.**

У гэты дзень працягваецца малітва вернікаў каля Грабніцы Езуса Хрыста. Таксама на працягу ўсяго дня ў касцёле асвячаюцца велікодныя стравы для святочнага стала. Пасля заходу сонца праходзіць урачыстая Пасхальная Вігілія, надзвычай прыгожая і вымоўная ў сваіх абрадах. Падчас яе асвячаецца агонь, пасхальная свечка, вада і спяваюцца велікодныя гімны.

**16 красавіка – Вялікдзень.**

Дзень Уваскрасення Пана, калі ўся сям'я збіраецца разам за велікодным сталом і спажываюцца асвечаныя стравы. Чытаецца ўрывак з Евангелля і малітвы. Усе дзеляцца асвечаным яйкам з соллю, а пасля частуюцца рознымі стравамі. Першы дзень Вялікадня – дзень сямейны.

**17 красавіка – Велікодны панядзелак. Другі дзень свята.**

У гэты дзень усе вернікі наведваюць касцёл і ўдзельнічаюць у святой Імшы. Прынята на другі, трэці дзень наведваць сірот, старых і адзінокіх людзей, увогуле ўсіх, каму патрэбная дапамога. У некаторых краінах Заходняй Еўропы існуе звычай на другі дзень свята абліваццa вадой, асабліва гэта падабаецца моладзі.

**23 красавіка – нядзеля Божай Міласэрнасці.**

Гэтае свята для паўсюднага Касцёла было ўстаноўлена Папам Янам Паўлам ІІ у лістападзе 2000 г. Адзначаецца яно ў другую Велікодную нядзелю.

**25 красавіка – успамін святога Марка, евангеліста.**

Марк быў вучнем і перакладчыкам святога апостала Пятра, які называў яго "сваім сынам". Ён з'яўляецца аўтарам другога Евангелля, найкарацейшага з чатырох. Паводле Новага Запавету, Марк быў сынам Марыі з Ерусаліма, у доме якой рэгулярна збіраліся першыя хрысціяне. Лічыцца, што ён быў першым біскупам Александрыі, дзе дзякуючы яго дзейнасці станавілася ўсё больш і больш хрысціянаў. Раздражнёныя гэтым паганцы схапілі Марка, калі ён служыў святую Імшу, і цягнулі яго на вяроўцы па вуліцах горада. Не перажыўшы такога здзеку, на наступны дзень Марк памёр. Яго рэліквіі знаходзяцца ў катэдры Сан-Марка ў Венецыі, апекуном якой ён з'яўляецца. Сімвал евангеліста – леў.

Святы Марк лічыцца апекуном пісьменнікаў і мастакоў, праз яго заступніцтва сяляне просяць добрага надвор'я і спрыяльных дажджоў.

**29 красавіка – успамін святой Кацярыны Сіенскай – панны і доктара Касцёла, апякункі Еўропы.**

Кацярына Бенінказа нарадзілася ў 1347 г. і была дачкой фарбавальніка з Сіены (Цэнтральная Італія). Ва ўзросце 12 гадоў Кацярына, згодна з жаданнем бацькоў, павінна была выйсці замуж, аднак глыбокая рэлігійнасць і багатае ўнутранае жыццё схілілі яе да таго, каб уступіць у Трэці закон дамініканаў. Паводле ўласных словаў святой, яна перажыла "духоўныя заручыны" з Хрыстом. Сваім гераічным хрысціянскім жыццём, напоўненым самаахвярнай любоўю да бліжніх у імя Хрыста, яна прыцягнула да сябе шмат прыхільнікаў з усіх сацыяльных пластоў. Памерла ў Рыме ва ўзросце 33 гадоў, у апошнія гады жывячыся выключна Эўхарыстыяй. Святая Кацярына Сіенская з'яўляецца апякункай Італіі і Еўропы. Яе заступніцтва просяць хворыя на чуму і тыя, хто пакутуе ад галаўных боляў.

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*



# Беларусь у "святых" гербах: Жыровічы

**Герб Жыровічаў мне асабіста чымсьці прыгадвае абраз ці ікону. Ён прываблівае зрок, засяроджвае ўвагу і не хоча адпускаць. А прычынай з'яўляецца шэраг пытанняў: што гэта за святы, чаму чалавек перад ім на каленях, што ён трымае ў руках, што азначае залаты меч?**



Дарэчы, у іншай версіі герба мяча няма: замест яго на зямлі ляжыць драўляны крыж. Можна дапусціць, што святар чытае малітву над пілігрымам, які прыйшоў у Жыровічы пешшу, абапіраючыся ў дарозе на крыж, як на паходны посах. Крыж можна інтэрпрэтаваць таксама як знак пакаяння ў грахах, а святар можа быць тым, хто адпускае грахі. Але гэта, хутчэй, фантазія…

Здаецца, таксама не вытрымлівае крытыкі версія, што гэта сцэна хросту. Менавіта такую ідэю найчасцей сустракаем у інтэрнэце.

Аднак застаюцца іншыя пытанні, у прыватнасці, што гэта за чалавек, які стаіць на каленях, і што ён трымае ў руках?



Апісанне герба пры наданні Магдэбургскага права Жыровічам не захавалася. Пра тое, як выглядаў герб першапачаткова, мы даведваемся з гарадской пячаткі. Паколькі герб надалі ў 1652 г., можна дапусціць, што постаць святара на ім – гэта базыліянскі манах. Менавіта манахі-базыліяне з 1613 г. апякуюцца абразом Маці Божай Жыровіцкай. Пытанне: чаму ён паказы з німбам, як святы? З гісторыі ведаем, што ў 1613 годзе першым ігуменам кляштара базыліянаў стаў Язафат Кунцэвіч, будучы біскуп і… святы мучанік. Тады становіцца зразумелай і прысутнасць мяча як сімвала мучаніцкай смерці святога Язафата.

І на першай, і на другой вывях герба чалавек на каленях трымае прадмет авальнай формы. Ён вельмі нагадвае абраз Маці Божай Жыровіцкай!



І тады сапраўды можна дапусціць версію, што кленчыць Ян Мялешка, тагачасны ўладар Жыровічаў, які перадае ў 1613 г. абраз пад апеку базыліянаў на чале з іх ігуменам.

Да сённяшняга дня Жыровічы – гэта месца, куды з радасцю пілігрымуюць праваслаўныя, грэка- і рымакатолікі.

*Падрыхтаваў айцец Андрэй Сідаровіч MIC*

## На красавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **ксёндз-пралат Францішак Кісель** *(Полацк)*, **а. Чэслаў Курэчка MIC** *(Росіца);*

**3 красавіка** – імяніны адзначаюць **кс. Рычард Якубец, кс. Рычард-Пётр Перчак, а. Рычард Пежхала MSF**;

**4 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі**;

**5 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Люцыян Радомскі**;

**7 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Гэнрык Яблонскі**;

**8 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Генадзь Акалатовіч, а. Францішак Галдыс TChr**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** *(Лучай);*

**9 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Шэмет**; імяніны адзначаюць **кс. Дзмітрый Сядлецкі, а. Дзмітрый Занямонскі OMI, кс. Дзмітрый Іваноў, кс. Дзмітрый Пухальскі**;

**10 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Павел Барысевіч, кс. Тадэвуш Крыштопік**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы);*

**11 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Валерый Орсік** *(Орша)*, **кс. Павел Астукевіч; а. Тадэвуш Кавальскі OFM Cap** *(Докшыцы);*

**13 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя);*

**15 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Канапелька**;

**17 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Ежы Вільк SCJ** *(Варапаева)*, **а. Генадзь Рамашка SAC, кс. Віталь Сідорка**; імяніны адзначае **а. Генадзь Рамашка SAC**;

**18 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валянцін Хведук**;

**19 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **а. Ежы Саковіч OSPPE**; імяніны адзначае **кс. Валерый Марціноўскі** *(Люблін)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Чэслаў Халгас MS**;

**22 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юры Бараўнёў** *(Порплішча)*;

**23 красавіка** – імяніны адзначаюць кс. Юрый Барок, **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*, **а. Ежы Вільк SCJ** *(Варапаева)*, **кс. Юрый Жаўняровіч, а. Юрый Катовіч OFMCap** *(Докшыцы)*, **кс. Юры Быкаў, а. Юрый Краўчанка OFMCap, кс. Юрый Санько, а. Юрый Кулай OCD, а. Ежы Ноцунь SCJ** *(Барадзенічы)*, **бр. Войцех Врублеўскі OFMCap** *(Докшыцы)*, **а. Войцех Вальчына MSF, кс. Ежы Беганьскі, кс. Юрый Церабей, кс. Юрый Федук, а. Ежы Грыцко ISCh, кс. Юрый Ігнатовіч, кс. Юрый Ясевіч, кс. Юрый Ёдзік, кс. Юрый Канапелька, кс. Юрый Кузьміч, кс. Ежы Левінскі, кс. Юрый Марціновіч, кс. Ежы Павайба, а. Ежы Саковіч OSPPE, кс. Ежы Свіслоўскі, кс. Юрый Жэгарын, а. Ежы Катоўскі OMI.**

**24 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Ян-Валерыян Хернік OFMConv** *(Удзела)*, **бр. Войцех Врублеўскі OFMCap** *(Докшыцы)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Леанард Станкоўскі**;

**25 красавіка** – імяніны адзначаюць **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*, **а. Марэк Пасют OFMCap** *(Докшыцы)*, **кс. Марэк Яняк MSF**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Альгімантас Паўлікас**;

**26 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Генадзь Добрук** *(Мёры)*, **кс. Віктар Захарэўскі**;

**28 красавіка** – імяніны адзначае **а. Віталь Юркевіч OFMCap**;

**29 красавіка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Аляксей Раманчук, кс. Андрэй Яркавец**;

**30 красавіка** – імяніны адзначае **кс. Мар'ян Шэршань**.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала*
*Ірына Радзевіч*



# Святы, якія пасварыў апосталаў
## 25 красавіка

**Адна з маіх любімых частак Новага Запавету – Дзеі Святых Апосталаў. Люблю гэту кнігу і за яснае апісанне жыцця першых хрысціянскіх супольнасцей, і за дынамізм веры, але таксама і за яскравыя, не падманлівыя партрэты апосталаў-місіянераў на чале з апосталам Паўлам.**

■ **а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін, Росіца*

Гэта менавіта Павел узяў у сваё першае місіянерскае падарожжа Барнабу і яго стрыечнага брата Марка, які таксама быў названы Янам. Ян Марк не з'явіўся ніадкуль: у Ерусаліме, у доме яго маці, удавы родам з Кіпра, збіраліся апосталы. Больш за тое, існуе вялікая верагоднасць, што менавіта там адбылася апошняя вячэра. Здаецца, можна таксама сцвердзіць, што ва ўладанні сям'і Марка быў Гефсіманскі сад. Бо як інакш патлумачыць прысутнасць Марка ў садзе, захінутага толькі адной прасцінай у часе арышту Езуса? Хутчэй за ўсё, ён пільнаваў сад або спаў у нейкай прыбудове, пачуў крыкі і вэрхал, выбег на двор у прасціне і кінуўся галасіць, калі ўбачыў, што Настаўніка арыштавалі. Ахоўнікі, якія хацелі Марка схапіць, павінны былі задаволіцца прасцінай, каторая засталася ў іх руках, калі спрытны хлопец уцёк.



Паколькі апостал Пётр называе Марка сваім сынам, то можна зрабіць вывад, што менавіта ён ахрысціў хлопца. І сапраўды, вялікую частку жыцця Марк правёў з галоўным апосталам, быў яго вучнем і, можна сказаць, асабістым сакратаром.

Аднак першая місійная прыгода Яна Марка адбылася пад кіраўніцтвам іншага апостала – Паўла. На жаль, цяжкасці, якія сустрэлі каманду місіянераў, аказаліся не па сілах Марку. У адзін з момантаў ён просіць адпусціць яго і дазволіць вярнуцца ў Ерусалім. Што дакладна сталася? Фізічныя нязгоды, пагроза смерці, перспектыва вырачэння ці можа характар (!) апостала Паўла, сёння мы ўжо не даведаемся пра матывы рашэння Марка не ісці далей. Але ведаем дакладна, што сітуацыя была настолькі нетыповая і настолькі незвычайная і загадкавая, што мела працяг.

Плануючы сваё другое місійнае падарожжа, апостал Павел меў намер здзейсніць яго са сваім духоўным сябрам Барнабам. Той прасіў узяць з сабой Марка. Апостал нарадаў так упарта супраціўляўся, што ўрэшце рэшт пайшоў з іншымі братамі, а Барнаба з Маркам вырушылі ў іншы бок. Так распаўся адзін з самых паспяховых місійных дуэтаў старажытнасці.

Гэта была б сумная гісторыя чалавечай нязгоды, непаразумення і непрабачэння, калі б у іншых крыніцах, лістах апостала Паўла, мы з радасцю не прачыталі б, што прайшлі гады, і вось гэтыя людзі зноў разам. Больш за тое, мы бачым, што Марк прыслугоўвае пастарэламу Паўлу і нават выконвае адказныя місіі: напрыклад, накіроўваецца ў Калосы з важным заданнем.

Марк з'яўляецца аўтарам самага кароткага апісання жыцця Езуса Хрыста. Даследчыкі адзінагалосна сцвярджаюць, што Евангелле паводле Марка – гэта запіс навучання апостала Пятра, якому Марк доўга служыў. Чытаючы шаснаццаць раздзелаў яго Евангелля, можам выразна ўявіць, як гэтыя словы прамаўляе першы з апосталаў.

Марк з'яўляецца апекуном Венецыі. У яго гонар у горадзе ўзнесеная велічная катэдра. Сімвал апостала – леў з крыламі.

І чамусьці, між іншым, святы Марк таксама апякун… баскетбалістаў (?!)

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

## Паважаны наш ксёндз біскуп Алег!

*Ад імя ўсёй нашай парафіі прыміце шчырае віншаванне з нагоды Вашага Дня нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця, радасці і вытрымкі на абраным Вамі шляху, Божага благаслаўлення і супакою на кожны дзень! Няхай Маці Божая атуляе Вас сваёй матчынай апекай і вядзе да Нябеснага Валадарства, а Пан Бог хай кіруе ўсімі Вашымі справамі!*

*Дзякуем Пану Богу за Вашую пастырскую паслугу, за Вашую малітву, за любоў і падтрымку! Мы заўсёды памятаем пра Вас у малітве!*

***Вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску***

## Ваша Экселенция, епископ Олег!

***Пусть Ваша жизнь будет ярка и светла,***
***Пусть луч небесный Вам дорогу освещает,***
***Пусть счастье радость Вам сопутствует всегда***
***И Ангел божий Вашу жизнь оберегает!***

***Вы были, есть и будете для Нас***
***Так дороги и так необходимы!***
***Спасибо Вам за всё, что сделали для нас,***
***Что разожгли в душе огонь***
***Любви, Надежды, Веры!***

***Приход Улла – Николаево***
***и наш кс. Александр Пивовар***

## Хвала Хрысту!

*Дасылаем найлепшыя пажаданні і віншаванні шаноўнаму **біскупу Алегу Буткевічу** ў Дзень яго нараджэння (18 сакавіка).*

*Жадаем моцнага здароўя, творчых поспехаў у працы, паўнаты святарскага шчасця і Божага блаславлення!*

***Вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа***
***(аг. Ахрэмаўцы, Браслаўскі р-н)***

## Хвала Хрысту!

*Уся парафія Езуса Міласэрнага ў г. Паставы з удзячнасцю і любоўю шчыра віншуе нашага шаноўнага **біскупа Алега Буткевіча** з Днём нараджэння!*

*Жадаем новых поспехаў у яго пачэснай працы на Божай ніве, моцнага здароўя, заўсёды добрага настрою, мець побач добразычлівых аднадумцаў, а таксама апекі Маці Божай і Анёла-ахоўніка!*

*Мы заўсёды разам з Вамі!*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*23 красавіка адзначае дзень нараджэння і імяніны наш паважаны, добразычлівы, сардэчны і чулы **ксёндз Юрый Бараўнёў**. Шчыра віншуем яго з гэтай нагоды і жадаем поспехаў у душпастырскай працы, Божай ласкі, добрага здароўя, радасных хвілін у жыцці, дароў Духа Святога, прыгожага і багатага плёну ва ўсіх задумах! Няхай святы заступнік Юрый засцерагае Вас ад няшчасцяў і дапамагае ў кожную хвіліну жыцця!*

*Дзякуем шаноўнаму ксяндзу Юрыю за працу ў нашых парафіях, за чулыя адносіны да парафіянаў, за прыклад, як трэба любіць Бога і свайго бліжняга, за яго залатыя рукі і за ўсё зробленае.*

*Хочам падзякаваць яго маме Галіне Бараўнёвай за выхаванне двух сыноў-святароў. Здароўя ёй моцнага і Божых ласкаў!*

*Мы, вернікі трох парафій, помнім пра Вас, ксёндз Юрый, у сваіх штодзённых малітвах.*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю***
***ад усіх вернікаў з аг. Порплішча, Крулеўшчыны і***
***аг. Барсукі, Нарбэрта Камянецкая***

## Віншуем!



*З вялікай радасцю віншуем з гадавінай святарскіх пасвячэнняў **айца Вадзіма Мізэра**, які служыць у Барысаве. Жадаем добрага плёну у душпастырскай працы, апекі Маці Божай! Няхай Дух Святы ўмацняе Вас і памнажае Вашу мудрасць! Найлепшага здароўя і радасці!*

***Вернікі з Друі***

**Адказы на тэст са старонкі 7**
1–Б, 2–А, 3–Б, 4–А, 5–А, 6–Б, 7–Б, 8–А

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шчыра віншуем **біскупа Алега Буткевіча** з Днём нараджэння!*

*Мы ўдзячныя Богу за ласку спаткання з Вамі. Дзякуем Вам за Божае слова, за глыбокую веру, за аптымізм і чуласць.*

*Жадаем Вам плёну ў працы на Божай ніве, апекі Панны Марыі і дароў Духа Святога. Няхай здароўе Ваша будзе моцным, радасць – штодзённай, з твару няхай не сыходзіць усмешка, у сэрцы заўсёды хай палае любоў да Бога і людзей!*

***З вялікай павагай, вернікі ідолтаўскай парафіі***

## Паважаны біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч!

*Ад усіх вернікаў Санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў дасылаем віншаванні і самыя сардэчныя пажаданні з нагоды Вашага Дня нараджэння.*

*Жадаем моцнага здароўя, нястомнай радасці, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, шчодрых дароў Святога Духа! Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх руках, блаславіць кожны Ваш дзень, хай Маці Божая атуляе сваёй любоўю і апекай і дапамагае ў нялёгкай служэбе на Божай ніве!*

*Прыміце самыя шчырыя словы падзякі за ўсе малітвы, за мудрыя і павучальныя казанні, за прыклад у пабожнасці і дабрыні, за адкрытае і чулае сэрца да людзей!*

***Святары, сёстры законныя,***
***парафіяне Браслаўскай парафіі Нараджэння***
***Найсвяцейшай Панны Марыі***

## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем з 10-годдзем святарскага пасвячэння **ксяндза Мікалая Ліпскага** (8 красавіка)!*

*Дзесяць плённых гадоў пад кіраўніцтвам і апекай пробашча праз Божае слова, казанні, Эўхарыстыю мы набліжаліся да Бога. Колькі сакраментаў хросту, шлюбаў адбылося за гэты час! Колькі дзетак прыняло ў свае сэрцы Езуса падчас Першай святой Камуніі! А пахаванняў і не злічыць. Здаецца, звычайная, але такая патрэбная ахвярная праца святара.*

*Шаноўны ксёндз Мікалай! За гады служэння ў парафіі бачны немаверна вялікі ўклад Вашай руплівай працы як дызайнера, архітэктара, арганізатара цудоўных парафіяльных фэстаў. Жадаем Вам шчодрых Божых ласкаў, апекі Божай Маці, спаўнення задуманых спраў!*

***Бруіцца жыватворнай крыніцай***
***Жыццё Касцёла, веры ўзмацненне.***
***Вам, пробашч, хочам нізка пакланіцца***
***За 10 год адданага служэння!***

***Здароўя зычым, каб было мацнейшым,***
***Трываць у працы і святарскай служэбе.***
***Хай Бог дабраслаўляе ў далейшай,***
***Хоць цяжкай, ды пачэснае паслузе!***

*Таксама шчыра дзякуем Вашым бацькам, якія ахвярна дапамагаюць у працы ля касцёла.*

***З павагай і малітвай,***
***вернікі касцёла св. Юды Тадэвуша ў Лучаі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Ад шчырага сэрца віншуем з Днём нараджэння (9 красавіка) нашу **сястру-арганістку Таццяну Данч**!*

*Дзякуем ёй за служэнне ў нашай парафіі, за прыгожыя спевы падчас набажэнстваў, за Раратнія малітоўныя спевы, за Песні жальбы, за Крыжовы шлях, за вялікую працу з моладдзю і хорам дарослых!*

*Паважаная с. Таццяна! Няхай добры Бог заўсёды падтрымлівае Вас у жыцці і добрых справах! Няхай Маці Божая Глыбоцкая атуляе сваёй апекай, а святая Цэцылія надае духоўныя і творчыя сілы ў працы на карысць нашай парафіі і Паўсюднага Касцёла!*

***Парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*19 сакавіка святкуе імяніны **ксёндз Юзаф Сярпейка**, які цяпер працуе ў парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Вілейцы. Удзельнікі малітоўнага руху “Маргарытка” і парафіяне рубяжэвіцкага касцёла, якія добра памятаюць і любяць цудоўнага святара, хочуць шчыра павіншаваць Вас, паважаны ксёндз Юзаф, з гэтай нагоды.*

*Мы ўдзячныя Богу і Вашым бацькам за дар Вашага жыцця і за ласку спаткання з Вамі на рубяжэвіцкай зямлі. Дзякуем Пану Богу за дар паклікання такога ксяндза да святарства. Дзякуем Вам, ксёндз Юзаф, за шчырае, добрае сэрца і неабыякавасць у працы, за глыбокую веру і любоў да людзей, за мудрасць і аптымізм, за нястомнасць і вынаходлівасць у душпастырскай працы, за вясёлы характар і цудоўную ўсмешку. Мы добра памятаем Вашы мудрыя казанні, поўныя любові, міласэрнасці і спачування.*

*Мы памятаем, як Вы, атуляючы сваёй шчырай любоўю і бязмерным клопатам кожнага верніка – ад маленькіх дзетак і моладзі да старэнькіх бабуль і дзядуль, – дзяліліся цеплынёй свайго сэрца, запальвалі агеньчык цікавасці да веры, да Бога.*

*Нізкі паклон Вам, паважаны ксёндз Юзаф! Мы штодзённа молімся і просім апекі Святога Юзафа для Вас. Няхай Ён дапамагае Вам, вядзе самымі добрымі Божымі сцежкамі і падтрымлівае ва ўсіх справах, планах і задумах! Святасці Вам, цярплівасці і надзеі!*

## Шаноўны ксёндз Вячаслаў Пялінак!

*Сардэчна віншуем Вас з нагоды чарговай гадавіны святарскага пасвячэння (28 сакавіка).*

*Дзякуем Пану Богу, што даў нам такога духоўнага настаўніка: шчырага, справядлівага, сардэчнага! Любяць Вас і дзеці, і моладзь, і дарослыя, бо ўсіх Вы накіроўваеце па дарозе Божага жыцця. Выказваем Вам вялікую ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве, за змястоўныя казанні, за Ваш клопат пра людзей.*

*Жадаем плёну ў працы, здзяйснення ўсіх Вашых планаў, моцнага здароўя. Няхай Езус Хрыстус блаславіць кожны Ваш дзень, Маці Божая хай ахінае Вас любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае ў душпастырскай паслузе і шчодра адорвае ласкамі!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю,***
***парафіяне ідолтаўскай парафіі***

## Хвала Хрысту!

*28 сакавіка **ксёндз Вячаслаў Пялінак** адзначае 15-гадовы юбілей святарскага пасвячэння.*

*Паважаны ксёндз Вячаслаў! Дзякуем Вам за малітвы, за Вашы размовы з моладдзю, за пераканання іх у юнацкіх амбіцыях і максімалізме. Вы паказалі многім нашым дзецям і ўнукам дарогу да Бога, надалі ім жаданне ісці дарогай Божай праўды.*

*Шчасця Вам і моцнага здароўя, нязломнай веры, моцнай сілы волі, Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай і анёла-ахоўніка!*

*Мы молімся за Вас.*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла***
***Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем з Днём нараджэння (17 сакавіка) **ксяндза Ігната Санюту**, які дзевяць гадоў працаваў у нашай парафіі.*

*Жадаем Божай ласкі, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, моцнага здароўя, поспехаў у дасягненні пастаўленых мэтаў. Мы ўдзячныя Вам, ксёндз Ігнат, за ўсё, што Вы зрабілі для нас і Касцёла. Будзем заўсёды памятаць пра Вас у сваіх малітвах! Жадаем усяго найлепшага на новым месцы працы!*

***Вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа***
***(аг. Ахрэмаўцы, Браслаўскі р-н)***

# Чаму праваслаўе паўтарае, што католікі – ерэтыкі, а праўдзівая толькі праваслаўная вера?

*Вітаю! У мяне незвычайнае пытанне... Чаму праваслаўе паўтарае, што католікі – ерэтыкі, а праўдзівая толькі праваслаўная вера? Вельмі шмат ёсць публікацый А.І. Осіпава, дзе ён заўзята сцвярджае, што католікі – ерэтыкі, пра папізм, што няма чыстца. Шмат ёсць відэа, дзе бацюшкі нядобра адгукаюцца пра каталіцызм. Ледзь не да язычнікаў адносяць нашу веру. Шмат праваслаўных святых, падзвіжнікаў, празорцаў у свой час казалі, што католікі – ерась і няма ім збаўлення. Мая добрая знаёмая была каталічкай, перайшла ў праваслаўе. І бацюшка сказаў, што яна правільна зрабіла і выйшла з ерасі. Я збянтэжаная. Адкажыце, калі ласка.*

*Марына*



Сустрэча Папы Бэнэдыкта XVI і Усяленскага Патрыярха Барталамея I ў 2008 годзе.

**На пытанне адказвае ксёндз Ян Раманоўскі:**

– У гісторыі хрысціянства на працягу дваццаці стагоддзяў адбываліся розныя здарэнні. З'яўляліся таксама розныя тэорыі, якія не заўсёды былі згодныя з традыцыйным навучаннем і вельмі часта звязваліся з інтэрпрэтацыяй Святога Пісання на свой лад. Гэта, у сваю чаргу, станавілася падставай розных новых памылковых веравучэнняў, такіх, як маніхеізм, арыянізм, нестэрыянізм і інш. З'яўляліся новыя секты і супольнасці, нязгодныя з навучаннем апосталаў і Касцёла, заснаванага Езусам Хрыстом.

1054 год, напэўна, можна назваць момантам, калі хрысціянству была нанесена рана, якая "крывавіць" да сённяшняга дня. Адбыўся раскол, вялікая схізма паміж Рымам і Канстанцінопалем, калі папскія легаты адлучылі ад царквы Канстанцінопальскага патрыярха, а патрыярх – легатаў. Аднак лічыцца, што канчатковы падзел наступіў у 1204 г. пасля варварскага захопу Канстанцінопаля крыжакамі. Я не хачу ўваходзіць у гісторыю гэтых падзей і шукаць вінаватых, але прыгадаю кантэкст гэтага падзелу, які вельмі моцна паўплываў на адносіны паміж Рыма-Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнай Царквой, што таксама адчуваецца і сёння.

У наш час вельмі часта гаворыцца пра розныя ініцыятывы, скіраваныя на экуменічны дыялог, на пошукі таго, што нас не розніць, але, наадварот, аб'ядноўвае. У гэтым адказе я не маю намеру выказвацца супраць Праваслаўнай Царквы, супраць вернікаў альбо духавенства, маючы да іх павагу і з'яўляючыся прыхільнікам дыялогу ў духу любові, якой нас навучае Хрыстос. Тое, што мяне цікавіць, гэта паспрабаваць адказаць менавіта на пытанне, чаму для Праваслаўнай Царквы католікі з'яўляюцца ерэтыкамі, і як сябе паводзіць у гэтай сітуацыі.

На жаль, не ўсё выглядае ў дыялогу паміж католікамі і праваслаўнымі так, як нам хочацца. Вельмі часта я таксама сустракаўся з такімі сітуацыямі, калі вернікі гаварыць, што іх назвалі ерэтыкамі ў царкве, або калегі на працы праваслаўнага веравызнання гаворыць, што святар так казаў пра католікаў. І падобных сітуацый вельмі шмат. На розных форумах, у кнігах можна прачытаць, што згодна з навучаннем Святых Айцоў Праваслаўнай Царквы, многіх патрыярхаў і звычайных святароў, католікі і Каталіцкі Касцёл – ерэтыкі, а экуменізм, дыялог паміж веравызнаннямі з'яўляецца справай шатана.

Я не эксперт у праваслаўным веравучэнні, але ведаю, што адной з прычын гэтага з'яўляецца непрызнанне вяршэнства Папы Рымскага, розніца ў некаторых дагматах і непрыняцце "філіёкве", праўды пра тое, што Дух Святы паходзіць не толькі ад Бога Айца, але таксама і ад Сына. Гэтая праўда веры была дададзена да Нікейска-Канстанцінопальскага сімвала веры Каталіцкім Касцёлам у XI стагоддзі.

Такім чынам, гэтыя і іншыя фактары з'яўляюцца прычынай таго, што Праваслаўнай Царквой католікі лічацца ерэтыкамі, якія адышлі ад праўдзівага веравучэння. Аднак цікава, што большая частка хрысціян ва ўсім свеце менавіта католікі. Дзейнасць Каталіцкага Касцёла не абмяжоўваецца толькі адным кантынентам, бо ідэнтычнасць Касцёла, напрыклад, для мяне, праяўляецца таксама ў яго прысутнасці на кожным кантыненце і таксама ў жаданні выканаць місійны загад Езуса: *"Ідзіце і навучайце ўсе народы"* (Мц 28, 19). І мне здаецца не вельмі лагічным у дадзеным выпадку гаварыць, што столькі хрысціян-католікаў трывае ў хлусні, жыве не так, як навучае Езус. Важным таксама з'яўляецца ў гэтым кантэксце той факт, што Кодэкс Кананічнага Права Каталіцкага Касцёла ў каноне 751 гаворыць: ерэтыком ёсць той, хто не прымае канкрэтнай праўды веры, у якую трэба верыць верай боскай і каталіцкай, а таксама, што схізматыкамі ёсць тыя, хто не прымае вяршэнства Папы Рымскага альбо не знаходзіцца ў супольнасці з чальцамі Касцёла, якія прызнае гэтае вяршэнства.

Аднак Каталіцкі Касцёл са свайго боку робіць усё магчымае, каб развіваць гэты экуменічны дыялог з іншымі веравызнаннямі, а ў першую чаргу, з Праваслаўнай Царквой, якая для нас вельмі блізкая. Але, на жаль, розныя публічныя выказванні на тэму Каталіцкага Касцёла з боку некаторых прадстаўнікоў Праваслаўнай Царквы не спрыяюць падобнаму братэрскаму дыялогу, але, наадварот, з'яўляюцца толькі нейкай фармальнасцю. І гэта, на маю думку, не вельмі добра сведчыць пра нас, хрысціян. Бо нашыя адносіны павінны будавацца на ўзаемнай павазе і падмурку, якім з'яўляецца любоў, каторай нас навучае Езус. Бо менавіта любоў паміж хрысціянамі ў першых вяках была прыкладам для іншых. І гэта таксама вельмі важна ў сучасным свеце, дзе ўсё больш пагарджаюць хрысціянскімі каштоўнасцямі, а хрысціяне, што даюць сведчанне сваёй веры, усё часцей лічацца людзьмі другой катэгорыі. Сёння ў першую чаргу гэты дыялог і сведчанне ўзаемнай любові з'яўляюцца нашым заданнем.

Са свайго боку я магу сказаць, што сустракаў праваслаўных святароў і вернікаў, якія вельмі добра ставяцца да католікаў і ў пэўным сэнсе ўдзельнічаюць у дыялогу паміж католікамі і праваслаўнымі. Таксама такім чынам яны даюць сведчанне запаведзі любові паміж вызнаўцамі Хрыста. Важнымі з'яўляюцца таксама ў гэтым дыялогу, напрыклад, супольныя малітвы і сустрэчы.

Што да тых, хто пакідае сваю каталіцкую веру і пераходзіць, напрыклад, у праваслаўе, то шкада, што так здараецца. Для католіка – гэта цяжкі грэх, адмаўленне сваёй веры. Але для мяне гэта з'яўляецца таксама сведчаннем таго, што чалавек не ведае на самай справе сваёй веры, сваёй традыцыі, не цэніць гэтага і, на жаль, часта не ведае, у што верыць. Я магу памыляцца, але лічу, што той, хто так лёгка пакідае каталіцкую веру, не быў добрым католікам, бо не пазнаў усё багацце рэлігійнага і духоўнага жыцця або нічога не рабіў, каб пазнаць і зразумець тое, што можа атрымаць у Каталіцкім Касцёле.

Вам, спадарыня Марына, я жадаю трывання і ўзрастання ў каталіцкай веры. Няхай Добры Бог блаславіць!

# Як правільна харчавацца ў час посту?

*Хвала Хрысту! Хачу спытаць, як правільна харчавацца ў час посту? Што дазволена і што не (якія прадукты)? Як правільна па днях харчавацца? Ці можна адзначаць Дзень нараджэння?*

*Яраслаў*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч MIC з Расіцы:**

– Яраслаў! Пост, каторы разумееш як абмежаванне сябе ў ежы, мае некалькі агульных прынцыпаў:

1. **Пост – не дыета.** Абмежаванне, якое на сябе накладаем, павінна мець выразную духоўную матывацыю. Трэба адказаць на пытанні: навошта пашчу? Якой мэты хачу дасягнуць?

2. **Пост – не пакаранне цела.** Абмежаванні, якія на сябе накладаем, носяць фізічна-духоўны характар. Нашай матывацыяй не можа быць вайна супраць перажыванняў нашай цялеснасці, а барацьба супраць пажадлівасці. Абмяжоўваючы цела, змагаемся з духам.

3. **Пост без шкоды здароўю.** Памеры нашых абмежаванняў у ежы не павінны нам шкодзіць. Калі нашае здароўе не дазваляе нам, напрыклад, не есці цэлы дзень, трэба пашукаць іншую форму посту.

4. **Пост блаславлёны духоўнымкіраўніком.** Правіла, якому я асабіста навучыўся ў навіцыяце марыянаў: пост, звычайна ва ўстрыманні ад мяса, ці то ў пятніцу, ці дадаткова ў сераду, можна было практыкаваць без дадатковага дазволу выхавальніка. Усялякі іншы пост толькі з яго блаславлення. Гэта важна, каб не трапіць у пастку фізічна-духоўнага знясілення.

Патрабаванні Касцёла ў посце – сціслы пост (адзін пасілак дасыта ў дзень) у Папяльцовую сераду і Вялікую пятніцу. Устрыманне ад мясных страў у пятніцы. Усё іншае – як асабісты дадатак. Напрыклад, пост у пятніцу на хлебе і вадзе або дадатковае ўстрыманне ад мяса ў сераду.

Асабіста я лічу, што сённяшняя цывілізацыя змушае нас да іншага посту. **Раю наступнае.**

- **увагу скіраваць у бок абмежавання карыстання мультымедыйнымі сродкамі.** Са свайго досведу ведаю, што адключэнне тэлебачання або абмежаванне ў карыстанні інтэрнэтам каштуе больш, чым абмежаванне ў ежы. Абавязкова з'явіцца час на духоўнае чытанне і малітву.
- **Адмаўляцца ад алкаголю.** У прынцыпе так робяць шматлікія вернікі, але з маладушнымі – выключэнне. Так, цэлы пост не п'ю, за выключэннем, напрыклад, 8 Сакавіка! Дык вось гэты дзень і з'яўляецца для Вас паспраўдднаму посным.
- **Адмаўляцца ад ўдзелу ў гучных святкаваннях.** Прынцып маладушнасці падобны: так, я пашчуся, на гулянкі не хаджу, а вось на канцэрт любімага гурта пайду. Вось тут і адбываецца выбар, абмежаванне, змаганне.

З Днём нараджэння абавязкова трэба віншаваць, сустракацца і піць гарбату з торцікам, а ладзіць святкаванне з застоллем лічу непрыстойным.

# Ці можна падчас Вялікага посту хадзіць у тэатр?



***Хвала Хрысту! Ці можна падчас Вялікага посту хадзіць у тэатр? І ці можна падчас посту адзін раз схадзіць на канцэрт любімага гурта, калі ён рэдка прыязджае?***

*Яўгенія*

**На пытанне адказвае айцец Аляксандр Махнач SP, піяр, магістр тэалогіі, Ліда:**

– Хвала навекі! Вялікі пост у Касцёле з'яўляецца перыядам пакаяння. Нас, хрысціян-каталікоў, у гэтым выпадку абавязвае касцельнае права і пяць касцельных наказаў, якія маюць на мэце гарантаваць вернікам неабходны мінімум духу малітвы, сакрамантальнага жыцця, маральнага намагання і ўзрастання ў любові да Бога і бліжняга. Менавіта чацвёрты наказ гучыць наступным чынам: "Захоўваць ва ўстаноўленыя дні пост і ўстрыманне ад мясных страў, а ў перыяды пакаяння не ўдзельнічаць у забавах".

Кодэкс Кананічнага Права Каталіцкага Касцёла ў канонах 1249, 1250, наступным чынам тлумачыць пра дні пакаяння:

Кан. 1249: *Усе верныя Хрысту, кожны па-свойму, у сілу Божага закона абавязаны здзяйсняць пакаянне. Але для таго, каб усе яны злучыліся адзін з адным, сумесна здзяйсняючы пакаянне, прадпісваюцца дні пакаяння, калі верныя Хрысту павінны асаблівым чынам аддавацца малітве, выконваць справы пабожнасці і міласэрнасці, адракацца ад саміх сябе, верна выконваючы свае абавязкі, але перш за ўсё – захоўваючы пост і ўстрыманне па нормах канонаў.*

Кан. 1250: *Днямі пакаяння і перыядамі ў паўсюдным Касцёле з'яўляюцца ўсе пятніцы на працягу ўсяго года, а таксама падчас Вялікага посту.*

Катэхізіс Каталіцкага Касцёла ў нумары 1438 кажа: *Перыяды і дні пакаяння на працягу літургічнага года (час Вялікага посту, кожная пятніца ў памяць смерці Госпада) з'яўляюцца ў Касцёле асаблівым часам практыкі пакаяння. Гэтыя перыяды больш за ўсё падыходзяць для духоўных практыкаванняў, набажэнстваў пакаяння, пілігрымак пакутнага характару, а таксама для добраахвотных самаабмежаванняў, такіх, як пост і міласціна, і для таго, каб па-братэрску дзяліцца з іншымі (дабрачынныя і місіянерскія справы).*

Каноны, згаданыя вышэй, гавораць нам, што Вялікі пост – гэта асаблівы перыяд пакаяння ў жыцці Касцёла, а з тым і кожнага верніка. Безумоўна, падчас посту не забараняецца схадзіць у тэатр і культурна ўзбагаціцца праз прагляд адпаведнай тэатральнай пастаноўкі, п'есы і г.д.

Што да канцэрта любімага гурта, які, напрыклад, прыязджае вельмі рэдка. Ці сапраўды я мушу падчас Вялікага посту ісці на канцэрт? Чаго так насамрэч прагне маё сэрца? Бо ўсё ж такі канцэрт – гэта гучнае мерапрыемства! Як кажа св. Павел Апостал, "усё мне можна, але не ўсё карысна" (1 Кар 6, 12). Ці будзе гэта карысна для маёй душы падчас Вялікага посту? Я асабіста ў Вялікі пост не пайшоў бы на такі канцэрт, хоць ён вельмі рэдка бывае. Усё залежыць ад таго, як сфарміравана сумленне канкрэтнага верніка.

> **"...адмаўляюся ад чагосьці падчас Вялікага посту не таму, што так настаўляе мяне касцельны наказ, але таму, што прагну гэта ўчыніць дзеля Яго – Езуса!"**

Вялікі пост – гэта час пакаяння, і вельмі важнай з'яўляецца тут матывацыя каталіка-практыка: адмаўляюся ад чагосьці падчас Вялікага посту не таму, што так настаўляе мяне касцельны наказ, але таму, што прагну гэта ўчыніць дзеля Яго – Езуса! Гэта вельмі важная матывацыя! Трэба пра гэту справу шчыра паразважаць у сваім сумленні, бо менавіта цяпер час спрыяльны, вось цяпер дзень збаўлення.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**2 красавіка 2017 г.**

***Ян 11, 1-45***

Уваскрашэнне Лазара паказвае, што Езус з'яўляецца Панам жыцця. Ён і ёсць Жыццё. Езус збаўляе ад смерці і дазваляе жыць. Гэтым знакам (уваскрашэнне Лазара) Езус умацоўвае веру сваіх вучняў. Гэта знак для ўсіх сведкаў Яго будучай смерці, што Ён – Пераможца смерці і на трэці дзень уваскрэсне. Бог умее вылучыць дабро нават з вялікай бяды. Святло Яго моцы заўсёды ўзыходзіць на світанні, нягледзячы на тое, што ноч была вельмі цёмнай і працягвалася тры дні.

*– Ці памятаю, што Езус пераможа смерць?*

*– Ці не падобныя мае думкі і выказванні да думак і выказванняў людзей, якія не ведаюць Бога?*

*– Ці веру я ў Змёртвыхпаўстанне?*

*– Ці аднавіў я ў час Вялікага посту разуменне, што грэх і смерць – гэта рэчаіснасць, якая датычыць і мяне?*

*– Ці спадзяюся ў гэтых справах на Хрыста?*

*– Ці памятаю, як цяжка Ён цярпеў, каб узнагародзіць за мой грэх і вызваліць мяне з абдымкаў вечнай смерці?*

*– Ці веру ў любоў і вартасць жыцця?*

*– Ці дазваляю Езусу, каб навучыў мяне любові і зрабіў маё жыццё паўнакасным?*

*– Ці не трачу духу падчас сустрэчы са смерцю і злом?*

*– Ці ўмацоўваю тады сябе і іншых у перакананні, што апошняе слова ў гэтых справах за Езусам?*

**9 красавіка 2017 г.**

***Мц 27, 11-54***

Для таго, каб збавіць чалавека, Бог аддаўся ў рукі людзей. Злосць і нянавісць людзей выліваюцца на Езуса. Да фізічнага болю дадаецца і псіхалагічны здзек з Яго вучэння. Ствараецца ўражанне, што чым бліжэй хвіліна смерці Езуса, тым больш відавочная і прысутнасць д'ябла. Асаблівa моцна яго голас гучыць пад крыжам, калі з вуснаў людзей чуецца абвінавачванне ў адрас Бога. Быццам бы Бог не любіць Езуса, паколькі дазволіў тое, што адбываецца. Гэта найбольш дзёрзкі і блюзнерскі ўдар. Яшчэ ў раі ён звяртаецца да нашых айцоў з прапановай не выконваць Божай волі, бо Бог не любіць людзей і не хоча для іх дабра. Так і цяпер, у хвіліну, калі Езус ахвярує сваё жыццё з любові да нас, д'ябал голасна сумнявaецца ў Божай любові. Езус да канца верны любові, паслухмяна выконвае волю Айца і ахвярує за нас сваё жыццё, не зважаючы на спакусы шатана. І ў хвіліну, як здаецца, поўнай паразы распачынаецца і аб'яўляецца Божая слава. Мы бачым знакі, і гучаць, як вызнанне веры, словы язычніка: "Сапраўды, Ён быў Сынам Божым". Набліжаецца час Хрыстовай перамогі.

*– Ці не маю схільнасці здзекавацца з Езуса?*

*– Ці не стаўлюся да Яго як да лялькі, каторую пераапранаю, з каторай смяюся?*

*– Ці не стаўлюся так да Езуса ў іншым чалавеку?*

*– Ці не стаўлюся так да Езуса ў сваім сэрцы?*

*– Ці не здзекуюся з Божай ласкі, з дабрыні, з натхненняў, якімі я адораны?*

*– Ці не паддаюся спакусе шатана і ці не сумняваюся ў Божай любові?*

*– Ці цвёрда я ўпэўнены ў Божай любові ў цемры выпрабаванняў і жыццёвых праблемаў?*

*– Ці не паддаюся д'ябальскай хлусні, якая кожную справу хоча пераманіць у доказ таго, што Бог дрэнны і не любіць нас?*

*– Ці збіраюся ўдзельнічаць у Літургіі Вялікага Тыдня?*

*– Ці хачу ў гэтыя дні разам з усім Касцёлам прытуліцца да ног Змёртвыхпаўсталага Хрыста?*

**16 красавіка 2017 г.**

***Мц 28, 1-10***

Гісторыя збаўлення працягваецца. Прыродныя з'явы чарговы раз пацвердзілі, што адбываецца нешта незвычайнае. Нябесны пасланец абвяшчае, што адбылося. Кажа, што Езус паўстаў, як і абяцаў. Усе сведкі, жаўнеры і жанчыны, баяцца, бо тое, што адбываецца, ім не зразумела, перарастае іх уяўленне. Езус аб'яўляецца спачатку жанчынам, якія стаялі пад крыжам, а цяпер прыйшлі намасціць Яго цела. Не важным першасвятарам, не самаўпэўненаму Пятру, не мужным жаўнерам, але слабым, бездапаможным, але верным Богу жанчынам, якія былі заўсёды там, дзе павінны быць.

*– Ці памятаю ў штодзённым жыцці, што не я Бог, а Езус?*

*– Ці дазваляю Богу валадарыць у маім жыцці?*

*– Ці ўважліва слухаю Яго слова?*

*– Ці адношу да сябе кожнае Яго слова?*

*– Ці жыву згодна з Яго словам?*

*– А можа, толькі пазней чую голас Божага пасланца: "Пра гэта табе Бог ужо казаў?"*

*– Ці разумею, што Божае дзеянне перарастае маё?*

*– Ці адкрыты я на новыя незвычайныя Божыя прапановы?*

*– Ці вучуся распазнаваць Божае дзеянне ў маім жыцці?*

*– Ці маю пастаяннага духоўніка, з якім разважаю пра сваё жыццё?*

*– Ці дазваляю Богу весці мяне праз жыццёвыя выпрабаванні?*

*– Ці не хачу часам паказаць Богу, як жыць?*

*– Ці веру, што і мяне Уваскрэслы з любоўю і прабачэннем называе сваім братам?*

**23 красавіка 2017 г.**

***Ян 20, 19-31***

Змёртвыхпаўсталы Езус пасылае сваіх вучняў, каб працягвалі Яго місію. Для гэтага адорвае іх дарам Святога Духа і перадае ўладу адпускання грахоў. Самае патрэбнае для абвяшчэння Езуса – гэта вера ў Яго. Таму Езус клапоціцца пра ўмацаванне веры ў св. Тамаша. Вучань Езуса не можа не давяраць Яму. Вучань Езуса, г.зн. кожны з нас, павінен шукаць веру, хоць мы і не бачым Езуса. Божы Дух у нашым сэрцы дапаможа нам убачыць Божае дзеянне ў Сакрамантах і Божае слова ў Бібліі. Трэба толькі супрацоўнічаць з ім.

*– Ці сведчу я сваім словам і жыццём, што веру ў Езуса?*

*– Ці працягваю Яго місію ў адносінах да свайго асяроддзя?*

*– Ці сведчу пра Божую міласэрнасць і перамогу Езуса над смерцю і грахам?*

*– Ці маю асабісты вопыт Божай міласэрнасці?*

*– Ці шчыра і рэгулярна спавядаюся?*

*– Ці прабачаю іншым і ці раблю ўчынкі міласэрнасці, як Езус?*

*– Ці ўсведамляю, што Бог-Святы Дух прысутны ў маім сэрцы?*

*– Ці слухаю Яго натхненняў?*

*– Ці дазваляю, каб Бог перамяняў і ўмацоўваў маю веру?*

*– Ці разумею, што духоўнае жыццё – гэта праца?*

*– Ці адкрыты я на тое, каб Бог мяне перамяняў і вучыў больш і лепш верыць, любіць і спадзявацца?*

*Разважанні падрыхтаваў*

***кс. Павел Кнурэк***

*www. lyntupy.by*

# Пазнавайка
Пазнаем Хрыста і Яго Касцёл!

## Што такое любоў?

Перад табой кветачка з пялёсткамі. У кожным пялёстку напішы, што для цябе азначае любіць.

Любіць - гэта
Дапамагаць сябрам

## У чым праяўляецца Божая любоў?

Бог вельмі моцна любіць кожнага чалавека. Ён заўсёды пра цябе клапоціцца.

У чым ты можаш убачыць клопат і любоў Бога ў штодзённым жыцці? Адказ на гэтае пытанне запішы ў наступных прамавугольніках.

Бог даў мне жыццё

## Злучы аднолькавыя фігуры

Злучы аднолькавыя фігуры стрэлкамі, каб даведацца, што гаворыцца ў Бібліі пра любоў Бога да ўсяго свету.

Бо так палюбіў
меў жыццё вечнае.
што аддаў Сына
верыць у Яго,
каб кожны, хто
Бог свет,
не загінуў, але
свайго Адзінароднага,

Атрыманы адказ запішы. ____________________

## Якіх слоў не хапае?

Разам з бацькамі ўважліва прачытай у Евангеллі паводле Мацвея ў 22 раздзеле вершы 37-39. Там знаходзяцца 2 запаведзі любові. Калі прачытаеш, зможаш правільна выканаць заданне і ўставіць тыя словы, якіх не хапае.

**1. Любі Пана Бога твайго ўсім ________ тваім, і ўсёю ________ тваёю, і ўсім _______тваім.**
**2. Любі _______ твайго, як ________ сябе.**

!!! Разам з бацькамі вывучы на памяць 2 запаведзі любові.

## Закрэслі непатрэбныя словы

У сэрцы змешчана шмат слоў. Табе неабходна пакінуць толькі тыя, што спалучаюцца і падыходзяць да слова любоў. Астатнія непатрэбныя словы закрэслі.

павага, гнеў, дапамога, адказнасць, зайдрасць, агрэсія, падман, пыха, малітва за блізкіх, клопат, сяброўства, прабачэнне, ветлівасць, шчырасць, капрызнасць, уменне дзяліцца, давер, абыякавасць, скнапнасць, падзяка, міласэрнасць, стараннасць, спагадлівасць, пажаданні дабра, злосць, спрэчка, мір, бессардэчнасць

## Замяні сімвалы на літары

У гэтым заданні табе неабходна замяніць сімвалы на літары. Кожнае новае слова пачынаецца з чырвонай кропкі.

Калі выканаеш правільна, даведаешся, што сказаў Папа Францішак пра Любоў. Атрыманы адказ запішы.

А Б В Д Е З І Й К Л
Н О С Р У Ў Ц Ы Ю Я

____________________

____________________

Мастачка: *Вольга Будкіна*; ідэя: *Ірына Радзевіч*

# Вандроўка ў Рым

**Зусім нядаўна вярнуліся з вандроўкі ў Італію, у яе сталіцу – "вечны" горад Рым і непасрэдна ў Ватыкан, дзе знаходзіцца цэнтр сусветнага каталіцызму і рэзідэнцыя Папы Рымскага.**

**Аліцыя Трафімовіч**

Група наша была невялікая, усяго сем чалавек, але гэта дазволіла нам больш аптымальна і насычана пазнаёміцца за чатыры дні з усімі значнымі гістарычнымі месцамі горада.

Вядома, найбольшы душэўны ўздым і захапленне мы атрымалі падчас наведвання Ватыкана, дзе адбылася сустрэча з нашым Папам – Францішкам, на якой прысутнічала шмат людзей з усяго свету. Гэта было штосьці неперадавальнае! Вялізны палац перапоўнены тысячамі вернікаў, што прыехалі або прыляцелі, як мы, на самалёце, каб пабываць на аўдыенцыі ў Папы, каторая доўжылася гадзіну. Айцец Францішак вельмі дэмакратычны ў адносінах да простых людзей. Ён бласлаўляў маленькіх дзетак, многім пілігрымам удалося працягнуць рукі і таксама атрымаць яго бласлаўленне. Потым Папа прывітаў усіх прысутных на розных мовах свету. Многія са слязьмі на вачах апладзіравалі і выклікалі словы падзякі для Папы. Гэта вельмі хвалявала і было непаўторна! Мы атрымалі вялікі зарад веры!



Таксама нам давялося пабываць на святой Імшы ў базіліцы святога Пятра, якую цэлебраваў біскуп Ендрашэўскі.

Вялікае ўражанне засталося ў нас і ад вядомых рэлігійных і гістарычных храмаў і пабудоў. Гэта чатыры вялікія базілікі:

1. Латэранская базіліка – сабор Святога Яна Хрысціцеля на Латэранскім узгорку, дзе галоўнай рэліквіяй з'яўляецца "Святая лесвіца".
2. Базіліка Санта-Марыя-Маджорэ. Яе заснаванне звязана з цікавай легендай.
3. Базіліка Святога Паўла за мурамі.
4. Сабор Святога Пятра. Там мы нават падымаліся на яго купал.

Таксама ўсе засталіся ў захапленні ад гістарычна-архітэктурных помнікаў: Калізей, Рымскі форум, Вітарыяна, Калона Траяна, фантан Трэві, Пантэон, замак Святога Анёла і іншыя.

Уражанняў хопіць надоўга... З гэтай нагоды вельмі ўдзячныя супрацоўнікам Польскага дома Яна Паўла II, дзе нас гасцінна прымалі.



**Дарагія сябры!**

**З'явілася новая магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся свaім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

1. **Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:** *363*375295105172*2#
2. **Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
3. **Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:** *363*[код пацвярджэння]#
4. **Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

*Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"*

## Ці павінна дзяржава аказваць грашовую дапамогу ў аднаўленні хрысціянскіх помнікаў?

**У нашай краіне вельмі шмат касцёлаў і іншых культавых пабудоў, якія з'яўляюцца ўнікальнымі архітэктурнымі помнікамі і найважнейшымі славутасцямі Беларусі. Многія ахоўваюцца дзяржавай. На дадзены момант шматлікім святыням, кляштарам і плябаніям патрэбна аднаўленне.**

**Ці павінна дзяржава аказваць грашовую дапамогу ў аднаўленні хрысціянскіх помнікаў?** На гэтае пытанне адказалі чытачы сайта "Каталіцкага Весніка".

**Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі.**



касцёлы, кляштары – найважнейшая культурна-гістарычная спадчына Беларусі, таму дзяржава абавязана аказваць фінансавую падтрымку – 140 адказаў;
дзяржава сумесна з Касцёлам павінна клапаціцца пра захаванне хрысціянскіх помнікаў – 128 адказаў;
вернікі могуць справіцца сваімі намаганнямі – 8 адказаў.
**Усяго – 276 адказаў.**

### Каментарыі чытачоў "Каталіцкага Весніка" на Фэйсбуку:

**Irena Kolada:** "Павінна. Беларусь – хрысціянская краіна. Без Бога, веры, гісторыі – гэта не краіна, а проста нейкае нешта".

**Siarhej Chareŭski:** "Дзяржава дзесяцігоддзямі выкарыстоўвала святыні пад свае патрэбы, давёўшы, дабіўшы ўсё да рэшты! То павінна сплаціць доўг! Але справа ў тым, што цяпер не паўсюль, дзе стаяць тыя ўнікальныя, але цяпер занядбаныя храмы, ёсць належная колькасць вернікаў. Мала дзе ёсць у такіх мясцінах вялікія парафіі..."

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
Заснавальнік: мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
Выдавец: рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
Галоўны рэдактар: кс. Віктар Місевіч
Тэхнічны рэдактар: Дзмітрый Лупач
Мастацкі рэдактар: Леанід Юрык
Рэдактар сайта: Марына Сінкевіч
Карэктары: Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1738
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 22.03.2017 г. у 11.37
Юрыдычны адрас: 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
Адрас для карэспандэнцыі: 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь